© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1807) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 6 СТУДЗЕНЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)



ПЕРШЫ Ў ПАСЛЯВАЕННАЙ ПОЛЬШЧЫ ПРАФЕСАР ПРАВАСЛАЎНАЙ ТЭАЛОГІІ

## НАМ ПАТРЭБНА ЕДНАСЦЬ

**(Размова з Яго Высокапраасвяшчэнствам прафесарам Савам, архіепіскапам беластоцкім і гданьскім)**

**„Ніва“**: Ваша Высокапраасвяшчэнства, просім прыняць ад нашых чытачоў і ўсяго рэдакцыйнага калектыву „Нівы“ самыя сардэчныя віншаванні з нагоды атрымання Вамі звання прафесара і самыя шчырыя пажаданні новых здабыткаў на ніве навуковых даследаванняў, а таксама здавальнення з выхавання наступных пакаленняў праваслаўных духоўных пастыраў.

Просім пазнаёміць са сваім ужо даволі доўгім і вельмі плённым у здзяйсненні шляхам вучонага.

**Архіепіскап прафесар Сава:** Горача дзякую за зычанні. Прысваенне мне звання прафесара не адносіцца толькі да аднае мае асобы. Гэта дасягненне ўсяе грамадскасці веруючых, яно мае вялікае значэнне для ўсяе Царквы наогул, асабліва ў нашыя цяжкія часы і ў тых незвычайных варунках, у якіх мы дзейнічаем. І гэта мяне тым болей радуе.

Дзякуй таксама за пажаданні на будучыню. Як духоўны ўскладаю ўсё ў рукі Божыя. Чалавека злучае з Богам супрацоўніцтва, і таму я як чалавек заўсёды паддаюся волі Божай.

**„Н“.:** Ваша Высокапраасвяшчэнства, калі і ў якіх абставінах уступілі Вы на гэты нялёгкі шлях?

**Арх. Сава:** Адкажу жартам, але з пэўным сэнсам: я нарадзіўся такім. Што гэта значыць? Адказ просты: ужо ў хлапечыя гады ў мяне было жаданне прысвяціць сябе Царкве — як душпастырскай, так і педагагічнай працы. Па волі Божай дадзена мне адно і другое. Адно прызванне накладваецца на другое. І якраз з гэтага вынікае ахвота да навуковых пошукаў, вывучэння, даследавання.

**„Н“.:** Якія праблемы наймацней захапілі Вас, Уладыка?

**Арх. Сава:** Несумненна, самай захапляючай справай, якую было дадзена мне даследаваць, — была кумранская праблема, што тычыцца археалагічных раскопак у 1947 г. над Мёртвым морам, а таксама праблемы — і якія ж багатыя! — Таінстваў Божых. Працуючы ў Яблачыне, пазнаёміўся я шырэй са штодзённым жыццём Царквы. Захвоціла гэта мяне заняцца новымі пытаннямі, якія звязаны іменна з Таінствамі — крыніцай ласкі Святога Духа ў нашай Царкве. Як дагэтуль, найбольш увагі прысвяціў я св. Таінствам: Пакуты — манашаскаму жыццю; св. Еўхарыстыі і Шлюбу. Дагматычна-кананічным даследаваннем Таінства Шлюбу я заняўся ў сваёй доктарскай (габілітацыйнай) працы, якую рэцэнзавалі прафесары замежных праваслаўных тэалагічных вышэйшых школаў.

**„Н“.:** Хто ўводзіў і ўспамагаў маладога пачынаючага тэолага ў таямніцы навуковых пошукаў?

**Арх. Сава:** Першай асобай, якая мяне нацэліла на вядзенне навуковых даследаванняў, быў святое памяці мітрапаліт Ціматэй. Прабабаў ён развіць затоеную ўва мне бацылу пошуку і даследавання, падсоўваў вельмі цікавыя тэмы. Пасля яго смерці апынуўся я без апекі. Аднак дзякуючы прыхільнасці добрых людзей быў створаны фонд на навуковую стыпендыю для мяне ў Югаславіі, краіне з багатымі праваслаўнымі традыцыямі. Менавіта там я вельмі сур'ёзна заняўся навуковай працай, карыстаўся магчымасцю непасрэдных кантактаў з выдатнымі праваслаўнымі вучонымі-тэолагамі. На тэалагічным факультэце Белградскага універсітэта я абараніў сваю кандыдацкую (доктарскую) працу.

**(Працяг на стар. 6)**

## Жыве яшчэ традыцыя!

*На ўроку беларускай мовы вучням трэціх класаў Гайнаўскага агульнаадукацыйнага беларускага ліцэя была зададзена пісьмовая праца на тэму: „Як адзначалася Каляда 1990 года ў маёй сям'і?“ Праваслаўная Каляда (Куцця) на Беласточчыне адзначаецца, як вядома, 6 студзеня.*

*Працы атрымаліся, па-мойму, цікавыя. З іх красамоўна вынікае, што і на нашай Гайнаўшчыне, і на ўсёй усходняй Беласточчыне, жывуць яшчэ нашы праваслаўныя і нацыянальныя традыцыі. І гэта, па-мойму, вельмі добра. Няхай і надалей жывуць яны і пашыраюцца. Яны ж цудоўныя ў нас!*

*Прапаную з некаторымі з гэтых прац пазнаёміць чытачоў „Нівы“.*

**Васіль Сакоўскі,**
настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі.

* ☼ *

Жыву я ў прыгожай вёсцы Чыжы. Дзень перад Раджджаством Хрыстовым, Каляда, вельмі розніцца ад звычайнага дня

**(Працяг на стар. 4)**

## СПАКОЮ І РАДАСЦІ Ў КАЛЯДНЫЯ СВЯТЫ

ЖАДАЕ НАШЫМ ЧЫТАЧАМ „НІВА“



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



— 20 —

Аказваецца, што Камуністычная партыя Беларусі налічвае ўсё яшчэ каля сямісот тысяч членаў. Калі трактаваць праблему колькасна, дык трэба сказаць, што гэта вялікая сіла. Трэба яе яшчэ памножыць праз жонак, мужоў, бацькоў і дзяцей членаў партыі. Зразумела, што не заўсёды члены сям'і падтрымліваюць камуністычныя ідэі. Нягледзячы на гэта, семсот тысяч членаў плюс сімпатыкі — гэта многа. Вядома аднак, што ў апошні час у краінах народных дэмакратый развальваліся амаль без следу партыі намнога большыя, чым Камуністычная партыя Беларусі. Зрэшты, і ў КПБ заўважаецца працэс выхаду членаў партыі. Але ёсць і такія, што ў партыю ўступаюць.

Здаецца мне, што галоўная сіла КПБ — не ў колькасці, а ў якасці. Гаворачы аб якасці, не маю на думцы чысціню і магутнасць яе ідэй, а тыя ўплывы, якія мае яна ў дзяржаўных установах, на фабрыках і заводах, у школьніцтве, навуцы і культуры. Усё яшчэ нішто не адбываецца там без голасу сакратара партыі і партыйнай арганізацыі.

Я не разбіраўся і не разбіраюся глыбока ў ролі Камуністычнай партыі Беларусі ў жыцці рэспублікі. Аднак сёе-тое бачу і ведаю. Ведаю, што Камуністычная партыя Беларусі інспіравала і праводзіла беларусізацыю Беларусі ў дваццатыя гады. І тая ж самая КПБ інспіравала і праводзіла бяспрыкладную барацьбу з усім, што мела беларускі твар у трыццатыя, саракавыя і першую палову пяцідзесятых гадоў. У другой палове пяцідзесятых гадоў і ў шасцідзесятыя, сямідзесятыя гады, першую палову васьмідзесятых гадоў КПБ сваім татальным маўчаннем як магла, так умацоўвала беларускі нігілізм, беларускі сервілізм, беларускую паслухмянасць, беларускае бяствараснае рэнегацтва. А ўсё гэта рабілася, каб дагадзіць і пакойнаму Сталіну, і жывым рускім важакам: Малянкову, Хрушчову, Брэжневу, Чарненку, Андропаву. Калі аказалася, што нацыянальная палітыка Гарбачова не з'яўляецца прадаўжэннем русіфікатарскай палітыкі ўсіх папярэднікаў, беларускія партыйныя правадыры затаілі ў сэрцы нянавісць да гэтага палітыка, які выразна развальвае адзіную і недзялімую рускую імперыю. А чаму яно так сталася? А таму, што ўжо ў КПБ няма дзеячоў тыпу Гартнага, Галадзеда, Чарвякова, Ігнатоўскага (усе загінулі ад сталінізму), а толькі былі або ёсць партыйцы тыпу Мяснікова, Кнорына, Машэрава, Слюнькова, Сакалова. А гэтых людзей поўнасцю задавальняла роля рускіх партыйных рэзідэнтаў у Беларусі.

Вымушаны прызнацца, што ў маёй свядомасці ўсё яшчэ таілася надзея, што КПБ пачне беларусізавацца і захоча быць нацыянальнай партыяй. Аднак XXVIII з'езд КПСС і XXXI з'езд КПБ канчаткова вылечылі мяне з такой наіўнай надзеі.

Пасля праведзенага ў Маскве некалькі месяцаў таму назад з'езда КПСС, дэлегаты ад Беларусі, вярнуўшыся на радзіму, правялі ў Мінску вялікае спатканне з партыйнымі дзеячамі з усёй БССР. Я быў упэўнены, што, пабыўшы ў Маскве, якая з'яўляецца цэнтрам савецкай перабудовы, беларускія дэлегаты ў час спаткання зоймуцца найважнейшым — беларусізацыяй БССР. Моцна я памыліўся — ніхто з іх не загаварыў аб гэтым. Найвыдатнейшыя пасланцы Беларусі нават словам не ўспомнілі аб адраджэнні беларускай нацыянальнай свядомасці, беларускай мовы, беларускай культуры.

Магло б здавацца, што пасля разумнага ліста пісьменнікаў — членаў партыі, якія падказвалі якімі прынцыпамі павінна кіравацца КПБ, ідучы на свой XXXI з'езд, партыя хаця б у нейкай ступені возьме гэты разважны голас пад увагу. Так аднак не сталася. Мне ўдалося выслухаць выступленні дэлегатаў гэтага з'езда. Усе яны апрача Шушкевіча і міністра культуры Вайтовіча, карысталіся выключна „лепшай" рускай мовай. Слухаў я таксама інтэрв'ю, узятае беларускім журналістам ад новавыбранага першага сакратара ЦК КПБ Малафеева, а таксама ад сакратароў нізавых арганізацый з такімі тыпова беларускімі прозвішчамі, як Паўносік, Вялічка, Міцкевіч. Усе яны гаварылі выключна па-руску, і ніводзін з іх нават паўсловам не намякнуў аб нацыянальным адраджэнні Беларусі. Вяршыняй абсурду было тое, што XXXI з'езд адкінуў прапанову адносна прынящця ўласнага статута КПБ. Не прынялі. Дайшлі да вываду, што вельмі добры для КПБ з'яўляецца статут КПСС. А гэта значыць, што Камуністычную партыю Беларусі поўнасцю задавольвае роля правінцыяльнай арганізацыі маскоўскага рускага камуністычнага цэнтра. І вось гэтае поўнае неразуменне подыху гістарычнага часу выстаўляе беларускім камуністам вельмі дрэнную ацэнку.

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Аб гонары гаварыць тут не даводзіцца.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**22 снежня на пасяджэнні Нацыянальнага згуртавання** (супольнае пасяджэнне Сейма і Сената) прэзідэнт **Лех Валэнса** склаў прэзідэнцкую прысягу. Прэзідэнт Рэчыпаспалітай Польскай выступіў таксама з кароткай прамовай, у якой закрануў праблемы міжнароднай палітыкі. Сказаў ён, што самае галоўнае — гэта добрыя адносіны з суседзямі — Нямеччынай, Літвой, Беларуссю, Украінай. Таксама ў суботу ў Каралеўскім замку ў Варшаве адбылася ўрачыстасць перадачы прэзідэнту Леху Валэнсу сімвалаў прэзідэнцкай улады. **Сімвалы** (між іншым, штэмпелі прэзідэнцкай канцылярыі, прэзідэнцкі сцяг і Ордэн Белага Арла) уручыў эміграцыйны прэзідэнт **Рышард Качароўскі.** Гэтыя прадметы як сімвал працягласці Польскай Дзяржавы былі вывезены на Захад у 1939 годзе. У гэты ж дзень Лех Валэнса пераняў таксама шэфства над Узброенымі Сіламі. У цырымоніі на дзядзінцы Каралеўскага замка ўдзельнічалі: міністр абароны віцэ-адмірал **Пётр Каладзейчык**, генералітэт і салдаты.

**Праваслаўны епіскап Аквілеі** (Італія) **Клаўдзій** прабываў з душпастырскім візітам у Беластоцка-гданьскай епархіі.

**Для праваслаўных жыхароў Беластока,** якія адзначалі свята Раждзяства Хрыстова па новаму стылю, у царкве св. Марыі Магдаліны служылася ўрачыстая ўсяночная (24 снежня) і боская літургія (25 снежня).

**Сабор епіскапаў Праваслаўнай царквы** ў Рэчыпаспалітай Польскай адбыўся 27 снежня ў Варшаве. На саборы абмяркоўваліся становішча Царквы ў новых умовах у нашай краіне.

**ІІІ з'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў** адбыўся ў Беластоку. Новым старшынёй БАС выбраны **Уладзімір Пац** — студэнт Сельскагаспадарча-тэхнічнай акадэміі ў Ольштыне.

**Па запрашэнні Беларускага грамадска-культурнага таварыства** ў Беластоку прабывала дэлегацыя з устаноў, якія супрацоўнічаюць з таварыствам. У яе склад уваходзілі прадстаўнікі **Беларускага таварыства „Радзіма"** (намеснік старшыні **Уладзімір Навіцкі** і супрацоўнік **Уладзімір Пішчака**), рэдакцыі **„Голасу Радзімы"** (рэдактар **Дзіяна Чаркасава**), **Беларускага фонда культуры** (намеснік старшыні **Валеры Скварцоў** і супрацоўнік **Таццяна Гаранская**) і **Саюза пісьменнікаў БССР** (**Аляксей Гардзіцкі**). У час візіту абмяркоўвалася праграма супрацоўніцтва паміж арганізацыямі на 1991—1992 гады.

## Аб'явы

Інфармацыю наконт працы за граніцай і эміграцыі ў ЗША, Аўстралію, Канаду, Новую Зеландыю прапануе: Richard Davies, 2 Mildmay Str., Greenbank, Plymouth, Devon, England.

Н-3/1

## Беларуска-кельцкі Зьвяз

19 лістапада 1990 года было створана ў Мінску культурна-навуковае таварыства „Беларуска-кельцкі Зьвяз". Аб яго стварэнні вырашыла пяцёра маладых людзей: Ігар Бабкоў, Хведар Кашкурэвіч, Ян Максімюк, Сяргей Санька і Сяргей Шупа. Падставай для ажыццяўлення такой ідэі была, агульна кажучы, паралельнасць лёсаў беларускіх і кельцкіх народаў ды культур — магутных у мінулым, сёння ж апынуўшыся ў стане занепаду.

Заснавальнікі „Беларуска-кельцкага Зьвязу" імкнуцца вывучаць гісторыю, фальклор, мовы — адным словам, усё тое, што складаецца на апрычонасць беларускай і кельцкай культур у Еўропе. Дасягненне пастаўленых сабе мэтаў бачаць яны, між іншым, у наладжанні кантактаў з таварыствамі і ўстановамі, якія займаюцца вывучэннем падобнай праблематыкі, ды ў зацікаўленні іх беларускім пытаннем.

„Беларуска-кельцкі Зьвяз" — па сваім характары таварыства элітарнае. На элітарнасць гэтую, акрамя самое праблематыкі, складаецца і кансерватыўная працэдура набору новых сяброў. Ахвотных звязацца з дзейнасцю таварыства паведамляю, што дзеля гэтага недастаткова задэклараваць гатовасць здзяйсняць яго мэты: неабходна яшчэ мець рэкамендацыю сама менш двух сяброў Зьвяза (гэта значыць, пакуль што, рэкамендацыю двух заснавальнікаў, якія ex definitione з'яўляюцца сябрамі Зьвяза).

**(ам)**

*Лучнасць са Зьвязам: Ян Максімюк (рэдакцыя „Нівы").*

### ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ БЕЛАРУСІ!

З красавіка мінулага года парваўся наш кантакт з чытачамі ў Беларускай ССР. У сувязі з павышэннем цэн фірма „Арс Полёна" спыніла экспарт усіх польскіх выданняў і прапанавала „Международной книге" новыя цэннікі. Дагэтуль абедзве фірмы не дамовіліся.

У такой сітуацыі наша рэдакцыя і выдаўца — Беларускае грамадска-культурнае таварыства сталі шукаць партнёра, які дапамог бы вярнуцца нашаму тыднёвіку на беларускі чытацкі рынак. У снежні БГКТ, пры дапамозе Беларускага таварыства „Радзіма" заключыла дагавор з Беларускім рэспубліканскім аб'яднаннем „Саюздрук" на распаўсюджванне „Нівы".

**Пачынаючы са студзеня „Ніва" будзе прадавацца ў кіёсках (цана аднаго экземпляра — 50 капеек) і адначасова будзе абвешчана падпіска. На „Ніву" можна будзе падпісацца ў аддзяленнях „Саюздруку" з тэрмінам пастаўкі ад 1 лютага 1991 года. Цана падпіскі такая:**

| | |
|---|---|
| — месячная | — 2 руб. |
| — квартальная | — 6 руб. |
| — паўгадавая | — 12 руб. |
| — гадавая | — 24 руб. |

**РЭДАКЦЫЯ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 375

# ІГАР БАБКОЎ

## БССР

*Зьнічу*

Безгалосую аўтакефалію
Ты ўпляла ў вянок вякоў:
Беларусам дала ў кампанію
Верных ленінцаў-бальшавікоў.

Атуліла іх мовай лагоднаю —
Мовай сходаў, перадавіц —
І ў нянавісьць, — неверагодную
Для хрысьціянства — зрынула
ніц.

*   ✲   *

Забрасьнее ў палахлівай крыві памерлых туга
Набрыняе карункавым павуціньнем сьпелая золь
На вочы, што бачылі, наступіць ката нага
Ergo sum — абвесьціць — выедлівы боль...

Не забудзься на тых божухна, хто ў пагоркаў труне
А таксама на ўсіх выгнанцаў у чужых краёх
Усіх, хто вольнасьці кветку ў апошнім сьне
Да сэрца тулiў сарваную на воўчых палёх

Не забудзься на тых, божухна, хто натомлена сьпіць
Чыі імёны адно шэпча чужыны золь
Хто і ў труне цябе вусьцішна, няспраўджана сьніць
Праз вольнасьці вэлюм ды завеі сьветлую столь

*   ✲   *

За небакраем Эўропы: ў акопах заціхла туга
Людзі, нібыта пасьля хлораформа, жывуць-паміраюць
Ціхае літаньне: ня спаць
Цёмныя, начныя словы на паперы згараюць

Кроплямі маляванага раю сьцякаюць з-пад рук
Існаваць, існавець
Ісьці тваімі шляхамі, забітая зьнічка Эўропы
Глядзі
Нібы вечнасьць у шашкі, гуляюць у сьмерць далакопы

За небакраем паэзіі: ноч, ханскі патруль
Далакопы дзеляць вопратку, колькі стагодзьдзяў?
Ах, сьвятая нянавісьць, толькі тут мы дома
Сярод пахаваных магіл і забытых багоў

*   ✲   *

*Let man's soule be a sphere...*
John Donne

Выспа, людзкі паратунак, неакрэсьлены тут твае межы
Цьмяных пакояў вачыма пранізьліва ў душу ідзеш
Нібы ласкавая пройма, мінаеш сірочыя вежы
І хаўтуровыя плямы на зьнічныя вочы кладзеш

Горад заснуў. Ліхтары метадычнасьць вартуе
Пошасьць вады й мерцьвякоў катаваны адхон
Сівы млынар паркалёвыя твары частуе
Зьзяе абрус і растулены крэйдаю скон

І глыбінёю жахлівай пужае забытая мова
Пітушка чакае агонь і ня трывае хада
Конікам дзікім зьвініць апяклянелае слова
І ў каганцы бледнатварая сьвеціць нуда

Выспа, людзкі паратунак, шукацьмеш размкнутага шляху!
Не цьвінтары, а дубовых шатаў сьвятло
Над галавою — абшары блакітнага даху
І ў душы агнёў паганскіх цяпло

*   ✲   *

на пошукі сапраўднага дому адыходзіць ён
апрача восені згаданай і неба вачніц
апрача пошапу азяблых рамён
апрача воглых крокваў старых камяніц

на пошукі сапраўднага сьвету дзе галеч рай
дзе восеньскаю лістотай колішні улюбёнец адам
насыпае сьляды хіжых зграй
правячых балаганны ашчар мажорным ладам

дзе ніштожыць сьляпое нішто адвечны закон
на пошукі сапраўднага болю О толькі душа
пачуе яго нямотны стогн
і раскіне пасьвятлелыя рукі... абапал крыжа

# ЗЬНІЧ

## ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ СУМОЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Трохгалосую Аўтакефалію
Ты ўпляла ў вянок вякоў:
Праваслаўным дала ў кампанію
Пратэстантаў, Каталікоў...

Атуліла іх Мовай лагоднаю —
Мовай зьнічак і бліскавіц —
І нянавісьць — не-вера-годную
Для хрысьціянства — зрынула
ніц.

Хай гучыць і чацьвёрты
голас.
Што Мікола ў свой час пабурыў.
Ды ня будзьма і мы, як Мікола:
Не пабурым першыя тры.



## ЗАСЬЦЯРОГА

Калі ты пойдзеш, брат Зянон,
тым шляхам, што і князь
Ягайла,
то Беларусь, як воз нядбайны,
пакоціць хутка пад адхон.

Аднойчы воз той шлях
прайшоў —
калі і Мову, й Праваслаўе
пакрыла поўнае бяспраўе
у Рэчы-шчы Каталікоў.

Такое-ж бачым і цяпер —
пад покрывам шляхотнай
Польшчы
амаль што наш, тутэйшы
Ольстэр,
дзе полымем
палюе
зьвер!..

## НА ЦАРКОЎНЫМ СУМЕЖЖЫ

Хрыстос: — *Дзе двое ці трое*
*ў Імя Маё — там і Я зь імі...*

Мы мяжуем з Масквою і Рымам.
Ды ня згубім сваю галаву:
у ХРЫСЦЕ будзе наша Краіна
багацейшай — на Рым і
Маскву...
Скажа нехта: „І нашым,
і вашым..."
Ад паганства ён не ачуняў:
няма ў Бога ні „вашых", ні
„нашых"
сярод тых, хто ў Хрыстова
Імя...



## СЬВЯТАРАМ І ДЗЕЯЧАМ СЬВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ

...ўрэшце й нас пуцявіны
няроўныя
на ратункавы шлях прывялі:
храм культуры — да Храму
духоўнага,
а духоўны — да роднай зямлі...

## СУКВЕЦЬЦЕ СКОНУ — ПАД ЗОРКАЙ ПАЛЫН

Хрыста Другое — Слаўнае
— Прышэсьце
сустрэць раптоўна
прыдзецца Нявесьце.
Яна — адна!.. але саперніц
шмат
за гэты шчасьця вечнага
пасад —
зямных, раўнівых, часам —
акаянна!..
Адна — бязгрэшная?.. — то
Кветка Ватыкана,
што прарасла, нястрымна
і упарта,
ва ўсе Краі — грунтоўна
і без жартаў...
Другая — Кветка Поўначы
суровай,
бунтоўная і дзеямі і словам...
Тры Кветкі Усходу — Кветкі
Праваслаўныя —
Вялікія
і Белыя...
і Малыя...
ў цяні вялікіх —
ціхі сьпеў Цім'янаў
Краіны сіняй
Рана на Івана...
. . . . . . . . . . .
Жаніх раптоўна зьявіцца
на сьвеце...
што выбярэ Ён з гэтага
Суквецьця?..

## СУМОЎЕ Ў БЕЛАРУСКІХ ХРАМАХ

Хай Сьвятая
Царкоўна-Славянская,
Хай і Грэцкая, і Латынь
нашы Храмы поўняць
Хрысьціянскія
разам з Мовай Айчыны
Амінь!



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




**Паважаная Рэдакцыя, дарагая „Ніва“!**

Апошні след нашай сувязі з „Нівай“ гэта два вершы, афарызмы і адзін артыкул, надрукаваныя ў мінулым 1989 годзе. Не значыць гэта, што я перастаў пісаць. Пісаў я, пісаў... з беларускай мовы на эсперанта. Перакладаў вершы М. Танка, А. Вярцінскага, Кляўко і прозу („Мініяцюры“) Сакрата Яновіча, якія „пайшлі ў свет“. Тады насоўваецца пытанне, чаму перастаў пісаць... у „Ніву“. Не з палітычных ці ідэалагічных прычын. Для мяне яна была і ёсць дарагая за беларускае слова. Была яна адкрытая для ўсіх і спадзяюся, што такой будзе. Не лічу, што была яна „сталінскай“. Была і ёсць напэўна беларускай. Былі на яе старонках, на першых, і праваслаўны мітрапаліт Варшавы і ўсяе Польшчы, былі праваслаўныя духоўныя, быў і каталіцкі ксёндз з БССР Чарняўскі з Вішнева, быў і а. Надсон з Англіі, былі харысты, салісты, мастакі і простыя людзі і былі часам сакратары партыі. Можна было шмат з яе старонак даведацца пра літаратуру, пра гісторыю, пра беларускую мову. І я „Ніве“ і яе аўтарам вельмі ўдзячны за гэтыя публікацыі. Праўда, што праз нейкі час некаторыя пачалі пісаць надта вульгарна. Рэдакцыя аднак гэта спыніла. Быў я за тое, каб „Ніва“ была важнай газетай, каб служыла сялянам, рабочым і інтэлігентам. Па-мойму, зараз яна стала надта важнай і не ўсе могуць лічыць яе „сваёй“. Узровень напэўна вышэйшы, калі гаварыць пра змест артыкулаў, але надта інтэлектуальны. Артыкулы вельмі доўгія, часта нецікавыя, адарваныя ад асяроддзя, ад праблемаў жыцця. Тады і ўключыцца тут са сваім словам немагчыма. Кожны, хто піша, мае свядомасць, што піша перш за ўсё для чытачоў. Што мусіць напісаць сваё слова, не абапірацца на чужую думку і чапляцца слоў другіх. Не ведаю, што робіцца на Беларусі. Тое, што чую па радыё, чытаю ў беларускім друку, паводле таго, што кажуць другія, якія былі на Беларусі, а нават жывуць і пішуць мне, прымаю з нейкай насцярожанасцю. Кожны мае свой погляд, свае адчуванні, так, напрыклад, як сённяшняе і напэўна на будучыню. Магу напісаць, што я адчуваю, на свой погляд. Цешуся, што ёсць паварот да беларусізацыі — рэбеларусізацыя. Працэс гэта напэўна доўгі, але аптымістычны. Паварот да сімволікі, можа яшчэ не прынятай афіцыяльна, але дазволенай. Падабаецца мне і цвярозая ацэнка сітуацыі дзяржаўнымі дзеячамі, якія кіруюцца не эмоцыямі, а розумам, разумеючы, што, каб быць поўнасцю сама-

**(Працяг на стар. 5)**






*Калядная паштоўка. Малюнак У. Петрука.*

## У нялёгкі для калекцыянераў час...

...выйшаў першы нумар газеты „Беларускі калекцыянер“, пазначаны як выданне Арганізацыйнага камітэта Беларускага таварыства калекцыянераў. Выданне адкрываецца зваротам-заклікам стварыць Беларускае таварыства калекцыянераў — арганізацыю, якая „павінна аб'яднаць у сваіх радах тых калекцыянераў, якім сапраўды не абыякавы лёс Беларускага Адраджэння“. Па ўсёй відавочнасці, ініцыятыўная група Таварыства завязалася ў Воршы, адрас сувязі з ёю: *211030 Ворша, вул. Флёрава, д. 7 кв. 16, Сярожкін Алесь.* У газеце, акрамя драбнейшых зацемак, змешчаны салідны артыкул Язэпа Барэйкі „425-я ўгодкі беларускай пошты“, у якім аўтар, у асноўным, аналізуе зацікаўленасць (гэта значыць, амаль поўную адсутнасць зацікаўленасці) беларускай савецкай пошты ў выпуску паштовых марак, прысвечаных беларускай тэматыцы, гісторыі Беларусі, яе вялікім людзям, падзеям, краявідам і г.д. Беларуская пошта амаль зусім не карыстаецца такой магчымасцю пашыраць імя Беларусі ў свеце. У даваенны савецкі перыяд з агульнага ліку каля 700 марак, выпушчаных савецкай поштай, 8 (восем!) закранала беларускую тэматыку. У пасляваенны перыяд на амаль 5000 савецкіх марак выпала каля 70 з беларускай тэматыкай. У гэтых адносінах, сцвярджае Я. Барэйка, нават Ангола і Мазамбік не з'яўляюцца раўнёй для Беларусі. Нічога не змянілася і ў „часы перабудовы“: як даведваемся з той жа газеты, у 1990 годзе Міністэрства пошты БССР заказала 2 (дзве) маркі з беларусікай. Заказала ў Маскве, значыць... У тым то й справа... З цікавейшых матэрыялаў варта адзначыць спісак цэнаў на савецкія ордэны (збіранне якіх у СССР забаронена законам). Для прыкладу, ордэн Леніна — 3000 рублёў; самы дарагі ў спіску — ордэн Ушакова, які каштуе 7000 рублёў, самы танны — ордэн Мацярынскай славы III ступені — усяго 30 рублёў.

**(ям)**

## ВЯСЕЛЬНЫ ПАДАРУНАК

Васіль ведаў, што сын аддае дачку замуж. Трэба штосьці будзе купіць у падарунку! Грошы разыйдуцца, а рэч застанецца. Купіў прыгожую пасцель і гардзіны. Чакаў, калі ўнучка запросіць яго на вяселле.

Даротка не хацела прасіць дзеда. Сказала бацькам: „Навошта мне стары на вяселлі!“

Давялося бацькам самім прасіць дзеда на вяселле.

Васіль не пайшоў. Яму крыўдна было, што ўнучка не просіць. Усё ёй даваў, а яна адвярнулася! Хоць гэта не па-мужчынску, усю ндзелю плакаў.

Сваім горам падзяліўся з суседам.

— Маладыя, — сказаў сусед, — толькі грошай ад нас хочуць, а мы ім ужо непатрэбныя!

— Больш я ім нічога не дам, — злосна сказаў Васіль. — Пасцель і фіранкі спалю, а ім не дам.

**Аўрора**

# Жыве яшчэ традыцыя!

**(Працяг са стар. 1)**

года. Найважнейшае ў ім гэта чаканне да зоркі, якое ў нас называецца зараваннем. Чакаюць бацькі, цётка Вера і сёстры. Вельмі цікава паводзіць сябе мая меншая сястрычка Анітка, якой шэсць гадоў. Раніцай яна гаворыць, што не будзе нічога есці. Але пасля дапытваецца, калі будзе тая зорка, бо яна не дачакаецца і памрэ з голаду. Я рыхтую пірог, а яна толькі вылізвае посуд і гаворыць: „Я толькі крышку, я не ем“. І далей чакае да зоркі. Цэлы дзень ідзе праца. Мама пячэ пірагі, а цётка смажыць рыбу і іншую ежу гатовіць. Тата ставіць ёлку. А калі вечарэе, у хаце ўжо парадак. Аж міла глянуць. Я пачынаю строіць ёлку. Кожны год у нас дзве ёлкі, вялікая — штучная і маленькая — натуральная. Чапляю розныя цацкі, лямпачкі, з ваты раблю пушыстыя сняжынкі. Ёлкі выглядаюць, як стройныя панянкі на вяселлі, у хаце пахне лесам. Гэта знак, што да свята асталося некалькі хвілін. Заўсёды ў нас на Каляду госці. Сёння прыехалі дзядзька з цёткай з Гайнаўкі, а таксама цётка з Варшавы. А з ёю мая бабулька. Яна святкавала ў Варшаве, а цяпер прыехала і святкуе яшчэ раз разам з намі. А чацвертай гадзіне ўсе пайшлі ў царкву на вячэрню. Мама і я асталіся ў хаце, каб прыгатовіць вячэру. Страў было многа, але каб іх можна было паставіць на стол, трэба спачатку пад настольнік палажыць сена. Гэта таму, што Ісус Хрыстос радзіўся на ім. Каляда гэта каласы жыта з апошняга жніва. Яно вісіць да Трох Каралёў, а пасля аддаецца жывёле. Гэта мае запэўніць дабрабыт у гаспадарцы: каб каровы давалі многа малака, а свінкі хутка раслі. Праз гадзіну скончылася багаслужба. Вярнуліся цёткі і бабуля. Усе паселі за стол, памаліліся і пачалі яду ад куцці так, як кажа традыцыя. Але былі і іншыя стравы: селядзец з алеем, чырвоныя бурачкі, варэнікі з капустай і грыбамі, катлеты з рыбы і рысу. Вельмі ўсім смакавалі галубцы з грыбоў і кашы. Тату найбольш смакавала рыба з жэле. Гэта яго найсмачнейшая ежа. Была і рыба ў соусе, і грыбы смажаныя, і мак з галушкамі. Наварылі таксама купнага кісялю. Але быў і іншы кісель — свойскі. Тата намалоў аўса, цётка падсеяла і ўварыла. Што ж гэта за смаката, каб вы толькі паспрабавалі! А запівалі шчолкам з груш і яблык. А пахла ўсім. Не абыйшлося без чаркі гарэлкі, пры якой усе жадалі сабе ўсяго найлепшага, каб дачакаць на другі год і пры якой тата нас паблагаславіў. Усе стравы мы елі з пірагом і хлебам. Вячэра была сапраўды смачная, як ніколі. Пасля вячэры бацька забраў сена, каб на Тры Каралі аддаць яго каровам, а калі пасвенцяць у царкве ваду, калядой свенцяць хату. На сене, якое было на стале, хацела спаць Анітка.

Традыцыйна ў гэты вечар дзеўкі варожаць. Мая цётка расказвала, як гэта было калісьці. Цягнулі яны сена з-пад настольніка. Калі яно было простае, гладкае, муж меў быць прыгожы і добры. Сена крывое, ды яшчэ з каласком — гэта абазначала, што чалавек будзе грозны, дрэнны і з вялікімі вусамі. Гавораць, што жывёла ў гэту ноч прамаўляе чалавечым голасам. Я гэта баялася праверыць, бо гавораць, што калі гаспадар падслухае іх размову, не будзе шчасціцца ў гаспадарцы.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

НОВЫ ВАКЗАЛ У БЕЛЬСКУ

# СЦІПЛАЯ РАДАСЦЬ У ЦЯЖКІ ЧАС

7 снежня (ужо мінулага года), у першы прымаразак у Бельску ўрачыста адкрылі будынак новага аўтобуснага і чыгуначнага вакзала. Апошні сапраўдны вакзал памятае ўжо няшмат жыхароў Бельска: ён быў разбураны ў 1944 годзе. Увесь гэты час пасляваення людзі туляліся ў цесных бараках, дзе прадавалі білеты, найчасцей з аднаго акенца. Новы будынак выглядае салідна і мадэрна. Агульная кубатура будынка — 15 000 куб. м. У будынку прасторны хол-пачакальня з лаўкамі, білетныя касы — па чатыры акенцы на аўтобусы і на цягнікі, буфет, газетны кіёск. Адначасова ў ім можа памясціцца каля 500 асобаў. Значыць, нястрашна выбірацца ў падарожжа ў дождж, нават калі табе руніць паехаць у нядзелю на цягніку Седльцы—Беласток, што адыходзіць з Бельска (паводле раскладу) недзе каля сёмай увечары. Ёсць дзе схавацца.

Пабудова вакзала пачалася ў 1987 годзе. Галоўным выканаўцам было Бельска-падляшскае будаўлянае прадпрыемства. Грошы на пабудову дала Цэнтральная акруга дзяржаўнай чыгункі ў Варшаве і Прадпрыемства дзяржаўнай аўтакамунікацыі (ПКС). Дырэктар цэнтральнай чыгуначнай акругі Рышард Альшэўскі (родам з самога Бельска, як казалі) прысутнічаў на ўрачыстасці адкрыцця. Ён жа, варта адзначыць, у значнай меры прычыніўся да ранейшых вакзальных інвестыцый у Гайнаўцы і Чаромсе.

Звычай, які прыйшоў на змену партыйным прамовам падчас такога тыпу нагодаў, прысутнасць святара з крапідлам — прыняўся і ў Бельску. Вакзал высвяцілі каталіцкі і праваслаўны святары — Войцех Васак і Юры Такарэўскі.

І такім чынам, забяспечаныя ад злое нагоды, мы спакойна сядаем на цягнік і коцім у Беласток. І нашай радасці ад усяго гэтага не каламуціць нават тое, што перад Страблям цягнік запавольвае і едзе хвілін колькі з хуткасцю пяць шпалаў на мінуту, бо недзе ў гэтым месцы (машыністу вядома, дзе) лопнула рэйка, і таму трэба асцярожна, бо ўвесь састаў з трох двухпавярховых ГДР-аўскіх вагонаў можа кульнуцць у адхон. Спакойна, без спеху, мы за адну гадзіну і пяць хвілін адольваем амаль пяцьдзесят кіламетраў і выходзім у Беластоку. А ў Беластоку, вядома — стары абдрыпаны вакзальны будынак не раўня Бельску... Бельску пашэнціла — сам жа дырэктар чыгуначнай акругі адтуль... Бельская інвестыцыя была запачаткаваная яшчэ ў часы камунізму, калі, агульна кажучы, усялякае знаёмства, сваяцтва і рэгіянальныя сентыменты мелі ўплыў і на будаўнічыя інвестыцыі. А зараз жа, у часы капіталізму, калі, як кажуць, без грошай ніхто не ўважыць ні брата, ні свата, чыгунцы давядзецца нялёгка. Можа, нейкія большыя шанцы будзе мець электрычная... Але наўрад ці на Усходняй Беласточчыне...

**Ян Максімюк**



Познім вечарам ходзіць Дзед Мароз. У гэты раз ён вечарам не прыйшоў таму, што раней ён ідзе да меншых дзяцей. Да нас ён прыйшоў уначы. Але ўжо пры вячэры Анітка дапытвалася пра яго. Як лажыліся спаць, яна сказала: „Галіна! Ты збудзі мяне, калі будзеш ісці ў царкву. Я мушу ўстаць, каб штосьці зрабіць, бо калі я гэтага сёння не зраблю, то не зраблю ўжо ніколі ў жыцці“. Я вельмі добра ведала, што яна хоча пабачыць, што прынёс добры Дзед Мароз. А другой гадзіне мы пайшлі цэлай сям'ёю ў царкву на ўсеначную. Дома асталася Анітка, якая чакала падарункаў. Калі вярнуліся ў хату, тата спытаўся: „А дзе падарунак для Аніты?“ Мы былі здзіўлены, дзе ён. А яна ж прабудзілася ўначы і знайшла яго. Так прайшоў Калядны вечар. А раніцай, як усе, сталі мы святкаваць. Трошкі паспавалі, пагасцілі, і так прайшоў адзін, другі і трэці дзень Раждажства Хрыстовага. Гэта былі радасныя дні. Мы калядкамі праслаўлялі Ісуса Хрыста.

**ГалінаІлькевіч**

* ✲ *

Я жыву ў вёсцы Жукі. З дзеда-прадзеда 6 студзеня ў нас святкуюць Каляду. Гэта вельмі важны і цікавы дзень. У гэты дзень з раніцы да першай зоркі нельга есці. Па-нашаму называецца гэта зараваннем. Усе з нецярплівасцю чакаюць вячэры, якая з'яўляецца найважнейшым момантам дня. Але яшчэ да гэтага некалькі гадзін. У хаце мітусня. Я з мамай займалася кухняй. Бацька рыхтуе ёлку. У нас штогод натуральная ёлка, проста з блізкага лесу. Мая сястрычка Агнешка рыхтуе розныя ёлачныя аздобы. У яе прыгожых вочках відаць радасць і вялікая нецярплівасць.

А чацвертай гадзіне ўсе нашыя працы заканчваюцца. Ёлка ўжо стройная. У хаце парадак, аж міла паглядзець. Ужо ўсе адчуваюць гэты святочны настрой. На стол мама засцілае белы абрусок, пад які кладзе жменю сена. Пасярэдзіне стала ставіць свечку і кладзе невялічкія галінкі ад ёлкі. Так прыгатаваны стол застаўляе талеркамі. Заўсёды ставіць на адзін сталовы набор больш, для нечаканага госця.

Вячэра ў нашай хаце заўсёды адбываецца ў сямейным кругу, рэдка калі бываюць госці. Мне здаецца, што гэты дзень павінен быць выключна сямейным святам. Гэтая супольная вячэра, калі на стале стаіць дванаццаць страў, а ўсе яны посныя, яшчэ мацней звязвае сям'ю. Тады адчуваем у душы вялікае шчасце.

Калі на небе засвяцілася першая зорка, увайшоў у хату бацька. У руках трымаў ён каляду — жменьку збожжа. Потым усіх нас прывітаў са Святой Калядой і застраміў яе за ікону. Уся наша сям'я села да вячэры. Вячэра заўсёды пачынаецца ў нас малітвай-трапарам „Раждажство Твае Хрысце Божа наш“. На стале: боршч з грыбоў, селядцы і смажаная рыба, варэнікі з макам, піражкі з капустай і грыбамі, карп заліўны, кісель, кампот. Гарэлку ці віно ў нас на Каляду не п'юць. У час вячэры прыходзіць Дзед Мароз. Мы спяваем калядкі. З малітвай таксама адыходзім ад стала.

На гэту ноч усё на стале пакідаем. Усе вясёлыя, задаволеныя, ідзем на кароткі адпачынак, каб ноччу ўсёй сям'ёй пайсці ў царкву на ўсеначную. А сёмай гадзіне раніцы вяртаемся дадому. Пачынаецца першы дзень свята — Раждажство Хрыстова. У нас калядуюць і малыя і старыя. Усё адбываецца ў спакойным, святочным настроі.

**Ёлянта Падалец**




(Працяг са стар. 4)

стойнай дзяржавай, трэба мець перш за ўсё кадры сваіх спецыялістаў, ды ва ўсіх галінах дзяржаўнага жыцця. Калі паверыць словам майго размоўцы, што „Беларусь рускімі стаіць“, тады можа быць так, як стала з не адной краінай, якая мела незалежнасць, а была залежнай. Хай тады Беларусь будзе як суверэнная рэспубліка ў Саюзе, маючы свабоду, свае правы на мову, культуру, сваю гісторыю і гаспадарку. І ў той час рыхтуе сваю інтэлігенцыю, тэхнічную і адміністрацыйную і г.д. Не здзіўляе мяне тое, што некаторыя, а нават большасць гавораць у Рэспубліцы па-руску. А дзе яны мелі вывучаць беларускую мову, калі школы не было нават у Мінску?! З другога боку і рускую ведаць трэба, каб дагаварыцца нават з літоўцам ці латышом, не гаворачы ўжо аб іншых, каб пазнаёміцца з іхняй літаратурай і культурай. У дзяржаве, у кожнай, мае права родная мова! Бо дзе яна мае мець месца, калі не на сваёй зямлі? І ўсе жыхары гэтай дзяржавы ці рэспублікі мусяць гэта зразумець. І дзіўна, што так ужо ў БССР было ў гадах 1939—41 на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Нават герб БССР быў на чатырох мовах. А што зрабілася пазней, сапраўды не ведаю як. Зараз пачынаць трэба ўсё ад пачатку! Цяжкая гэта дарога, але надзейная. „Ніва“ — наша дарагая „Ніва“, якой павінна яна быць. Адкрытай для ўсіх і для тых, хто расчараваны, каму шкада „старога“ ладу, быццам спакойнага і надзейнага і для тых, хто ў цяперашніх пераменах бачыць лепшую будучыню. Людзі як людзі, ёсць розныя, і калі выказваюць сваю думку ў добрай інтэнцыі, дык хай пішуць, што адчуваюць. Калі мае быць плюралізм, тады няхай будзе. Пляваць на людзей нельга, гэта некультурна. Не думаю, каб гэта добра служыла і самаму часопісу. Парадоксам з'яўляецца і тое, што людзі, якіх паказвалі на старонках „Нівы“, аб якіх пісалі як аб актывістах, апынуліся ў „Календарах“, балотам абкідваюць сваіх дабрадзеяў, якія ім жадалі ўсяго найлепшага. Па-мойму, гэта і немаральна і неэтычна, бо хто карыстаўся пашанай, каму было дадзена добрае слова, каму рабілі рэкламу, то той хаця б павінен маўчаць. У апошніх „Кантрастах“ у нумары 8/90 я даведаўся, чым была „Ніва“ і БГКТ з выказвання Л. Тарасэвіча — колішняга мастака „Нівы“. Сорам! Чым бы „Ніва“ не была, яна служыла і служыць беларускім словам і беларускай справе! Усяго вам добрага, рэдактары, журналісты, працаўнікі рэдакцыі мінулых гадоў і цяперашнім! Будзь, „Ніва“, заўсёды з намі!

**Рышард Бутайла**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




Я цяпер знаходжуся ў Чыкага. Столькі чуецца пра сваркі людзей, жывучых у эміграцыі, а я сустрэлася з чымсьці зусім супрацьстаўным і якраз сёння хацела б з вамі аб гэтым падзяліцца.

Ёсць у Чыкага вуліца Ле-Мойн. Уласна кажучы, вуліца нецікавая, а жывуць тут у асноўным мексіканцы і пуэртарыканцы: гэта даволі далёка ад польскага цэнтра — Мілуокі, але хто сюды раз трапіў, будзе прыходзіць заўсёды, як доўга застанецца ў Чыкага.

Найбольш прыцягвае людзей да гэтага месца царква святога Юрыя, у якой служыць а. Канстанцін Бандарук, наш беластоцкі свяшчэннік з Ліповай. Вядзе ён набажэнствы па-беларуску з вялікай экспрэсіяй.

У прыцаркоўнай святліцы людзі арганізоўваюць культурнае і духоўнае жыццё, якое прыцягвае тых, якіх лёс кінуў у Чыкага, часта адзінокіх і бязрадных, вельмі перажываючых разлуку з блізкімі. Тут чуем беларускую мову і заўсёды знойдзем некага добразычлівага, хто пацешыць, а часта і паможа.

У гэтай святліцы можна з'есці добры бутэрброд, выпіць каву, пагаварыць, расказаць пра свае клопаты, даведацца пра жыццё тутэйшых беларусаў. Тут жа адбываюцца і пачастункі пасля жалобных набажэнстваў, арганізуюцца запусты, навагоднія балі, тут выступаюць мастацкія калектывы (напрыклад, „Васілёк"), адбываюцца таксама сустрэчы з цікавымі людзьмі, падрыхтоўваюцца супольныя снеданні на Вялікдзень і вячэры на Куццю.

Невялікая група актывістаў не шкадуе свайго часу і грошай, каб адзінокім людзям стварыць нешта накшталт сямейнага цяпла, якога так не хапае людзям, якія прыехалі ў Амерыку папрацаваць, а асабліва ў часе большых свят. Святкаванне адной такой Куцці хачу апісаць шырэй.

Ужо раней стала вядома пра планаваную супольную вячэру ў Калядны вечар. Прасілі, каб перадаваць аб ёй знаёмым і збіраць як мага больш людзей. 6 студзеня вечарам пасля малебна а. К. Бандарук ад імя арганізатараў запрасіў усіх на вячэру, у якой і ён прымаў удзел са сваёй сям'ёю.

Мы ўвайшлі ва ўпрыгожаную залу з цудоўнай ёлкай пасярэдзіне, каб пры багата застаўленых сталах правесці гэты вечар.

Згодна з традыцыяй, мы пачалі ад куцці з макам і мёдам, якую па-майстэрску падрыхтавала Лідзія Швефель. Яна падрыхтавала яшчэ адну цікавую страву — рыс з грыбамі. Яўген Макарэвіч спецыяльна выплыў на возера, каб злавіць ласося, якога сам падрыхтаваў, залітага

(Працяг на стар. 7)




**4. НА СУСТРЭЧЫ Ў ЦАРКВЕ КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА**

Прыехаўшы ў Нью-Йорк да спадарства Бартулёў, я спала ўвесь вечар, цэлую ноч і, як высветлілася, палавіну наступнага дня. Калі я прачнулася, было ўжо каля 1-ай гадзіны пасля поўдня. Ніхто мяне не будзіў.

Наша гаспадыня ўжо паспела сваім „кадылякам" з'ездзіць у найбліжэйшы супер-маркет і зрабіць закупы. На кухонным стале красавалася 20-фунтовая (каля 10 кг) вэнджаная шынка, якую Вера збіралася неўзабаве ўсадзіць у духоўку.

Калі я сышла ўніз з гасціннага пакою, у якім мяне памясцілі, Вера якраз рэзала гародніну на вінегрэт, але „рэзала" гэта было б не тое слова. Амаль усе прадукты, неабходныя для гэтага салата, былі куплены гаспадыняй у баначках — звараныя ўжо, нарэзаныя і наогул адпаведна падрыхтаваныя, нават буракі. Аставалася нарэзаць мо толькі кіслыя агуркі, яблычкі, цыбульку і гэта было б, бадай, усё.

— Як толькі нешта збіраемся рабіць у грамадзе, мне заўсёды даручаюць вінегрэт і печаную шынку, — усміхнулася Вера. — А сёння ж мы ідзем вечарам на прыём у царкву. Будзе сустрэча з мінскім калектывам „Жывіца", які мае прыляцець сёння. Уставай, Адачка, — дадала яна цёпла.

Вера штораз адрывалася ад работы: бясконца званіў тэлефон. У паветры пачала адчувацца нервовасць. Чую, як Вера некаму (можа Але Орса-Рамана, а мо Юлі Андрусішынай) кажа ў трубку:

— Не прыймайся, прыедуць! О кэй! Усяго! Бай!

Высветлілася, што прыём меў адбыцца ў святліцы пры нью-йоркскай царкве Кірылы Тураўскага. Пра такія святліцы, што найчасцей знаходзяцца ў спецыяльных памяшканнях пад цэрквамі, пісаў калісьці даволі дакладна Алесь Барскі ў сваіх нататках з падарожжа па Амерыцы. Менавіта ў іх адбываецца большая частка культурнага жыцця амерыканскіх беларусаў; тут арганізуюцца розныя мерапрыемствы ў сувязі з нейкімі святамі ці гадавінамі, тут бываюць выступленні іхніх мастацкіх калектываў, а нават здараюцца школкі па навучанню беларускай мове дзетак беларусаў з ЗША.

Пры царкве Кірылы Тураўскага ў Нью-Йорку таксама было такое памяшканне.

Калі мы ўвайшлі ў залу, амаль усе былі ўжо ў зборы. Сабралася цэлая нью-йоркская беларуская „смятанка", а некаторыя прыехалі нават з Кліўленда. Адзін доўгі стол быў поўнасцю застаўлены самай разнастайнай ядою. Каля сцяны стаяў меншы столік, на ім красаваліся прыгожыя бутэлькі з алкагольнымі і безалкагольнымі напіткамі.

Амерыканскія беларусы ў ніякога грошай не просяць. Уся іх дзейнасць абапіраецца выключна на грамадскіх складчынах. У выпадку падобных, як гэта, мерапрыемстваў проста абавязкі раскладаюцца на ўсіх. Кожны нешта купляе, нешта рыхтуе — і атрымоўваецца добры прыём.

Я глянула на залу. Людзі сустракаліся, абнімаліся, гутарылі. Была ўжо „Жывіца" з Мінска, быў вядомы беластоцкім беларусам нью-йоркскі танцавальны калектыў „Васілёк" на чале з Алай Орса-Рамана.

Прыемна было сустрэць знаёмых, але ж ведала я далёка не ўсіх, ды і што тут гаварыць, адчувала сябе яшчэ даволі няесмела.

І тады менавіта падыйшоў да мяне рэдактар нью-йоркскай газеты „Беларус", падаў мне руку і без ніякіх цырымоній сказаў: „Добры дзень, сяброўка па пяру! Я — Янка Запруднік". І гэта растапіла апошні лёд, які паціху вярэдзіў яшчэ нутро маёй душы.

Зараз жа ўбачыла я і беластоцкіх хлопцаў Алега Латышонка і Валіка Сельвесюка, ды Аляксандра Іванюка, дырэктара Гайнаўскага беларускага ліцэя. А там вунь і Данчык сядзіць з бацькамі — Юляй і Паўлам Андрусішынымі. І ўжо зусім я адчула сябе, як дома, як сярод сваіх, тым больш, што прысеўся яшчэ спадар Антон Шукелайць, старшыня Галоўнай управы Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Амерыцы.




**(Працяг са стар. 1)**

**„Н".:** Як Вы, Уладыка, патрапіце сумясціць абавязкі выкладчыка, выхавальніка і кіраўніка епархіі з навуковай працай?

**Арх. Сава:** Сумяшчэнне абавязкаў выкладчыка і адміністратара з навуковай працай не было і не ёсць лёгкім. Непазбежна тут расцярушанасць, страта свайго часу на рознае. Гэтак, напрыклад, пішучы доктарскую (габілітацыйную) працу, я зачыняўся на 2—3 гадзіны ў дзень у сваёй манашаскай келлі, каб магчы што-небудзь напісаць, даследаваць. Таксама раблю і цяпер. Але навуковая праца і выхаваўчая дзейнасць толькі на першы погляд розняцца паміж сабою. Вось, напрыклад, мае сённяшнія душпастырскія і адміністрацыйныя заняткі на самай справе мне вельмі дапамагаюць па-новаму глянуць на сучасныя праблемы, якія ў сваю чаргу маюць вялікі ўплыў на тое, якімі метадамі весці выхаваўчую дзейнасць.

**„Н.":** Што было для вас, Уладыка, найбольшай цяжкасцю, а што прыносіла найвялікшае задавальненне?

**Арх. Сава:** Не мала цяжкасцяў, але адначасна і многа ўнутранага задавальнення прынесла мне вывучэнне рукапісаў з Кумрана і даследавання пытанняў, якія звязаны са св. Таінствамі. У 60-я гады кумранская праблематыка ў нашай краіне знаходзілася ў зародкавай стадыі. Рукапісы, якія былі знойдзены над Мёртвым морам, тэолагам усіх веравызнанняў далі магчымасць высветліць мноства спрэчных момантаў, што выклікалі вучоныя-рацыяналісты, адносіліся ж гэтыя праблемы да лучнасці Старога і Новага Запаветаў. Рукапісы пацвердзілі ісціны, якія падае Біблія.

**„Н".:** Прашу пазнаёміць нашых чытачоў з найважнейшымі Вашымі навуковымі дасягненнямі.

**Арх. Сава:** Цяжка мне самому ацэньваць вартасць маіх навуковых даследаванняў. Зрабілі гэта рэцэнзенты. Хачу толькі заўважыць, што дагэтуль у Польшчы і іншых краінах апублікавана болей за 50 маіх даследаванняў, артыкулаў і іншых навуковых працаў.

**„Н".:** Ваша Высокапраасвяшчэнства, над чым Вы цяпер працуеце?

**Арх. Сава:** Ад часу абароны доктарскай дысертацыі (габілітацыі) па сённяшні дзень пашыраю свае ранейшыя даследаванні. Апрача гэтага, заняўся я эклезіялогіяй (навукай пра тэалогію Царквы). Маё вялікае жаданне — гэта выдаць „Праваслаўную дагматыку", над якой я цяпер працую. Таксама не мала часу прысвячаю апрацаванню матэрыялаў па патрыялогіі (навука пра жыццё і творчасць Айцоў Царквы), што пакінуў пасля сябе выкладчык патрыятыкі святой памяці Мікалай Гудульскі.

**„Н".:** Уладыка, як Вы ўсё гэта патрапіце сумясціць ды змясціць у часе?

**Арх. Сава:** Гэта сапраўды дастаецца вельмі цяжка. Як навуковы працаўнік я павінен значна больш часу праводзіць у бібліятэках. На жаль, у мяне няма такіх варункаў. Усё часцей даводзіцца самога сябе прымушаць чытаць. Раней я чытаў нават едучы ў машыне, цяпер такое даецца мне з вялікай цяжкасцю. Але ж нягледзячы на ўсялякія перашкоды, неабходна пагаджаць усё тое, да чаго чалавек пакліканы.

Мае душпастырскія абавязкі патрабуюць частых кантактаў з людзьмі. Адной з апошніх такіх лучнасцяў, якія выходзяць за межы нашай краіны, былі на



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

Кастусь Мерляк, які вёў урачыстасць, загадаў кожнаму прысутнаму прадставіцца. Сярод сабраных загудзела незадавальненнем: навошта? „Як добра, — падумалася пра гэта мне, — цяпер буду ведаць, хто ёсць хто!“ Калі дайшла чарга да мяне, я толькі сказала: „Ада Чачуга, „Ніва“, не тлумачачы больш ні слова, і шмат галоў з зацікаўленнем і адабрэннем у вачах павярнулася ў мой бок. Мне было вельмі прыемна, што „Ніва“ тут не чужая.

Я была яшчэ так ашаломлена падарожжам і зменай асяроддзя, што да сёння не магу ўспомніць, якую страву прымусіла мяне скаштаваць Ала Орса — торт гэта быў ці крэм?.. Я зразумела, што яна была аўтаркай гэтай стравы, і трэба было зрабіць ёй прыемнасць. У памяці маёй застаўся толькі далікатны арэхавы смак... Так, напэўна.

Неяк няёмка было падыходзіць самому і наліваць сабе „дрынкі“. Гаспадары, відаць, разумелі нашу славянскую сарамлівасць і, зусім не па-амерыканску, самі частавалі нас — гасцей мацнейшымі напіткамі.

Пасля мы яшчэ сядзелі ўсе разам, пры доўгіх сталах, гутарачы, успамінаючы. У пэўным моманце вочы Данчыкавай маці сталі вільготныя: „Весела, праўда?..“ — сказала яна ў задуменні, гледзячы некуды ў далечыню.

І ў яе прыгожых вачах неабыякавы назіральнік мог вычытаць усе нашы радасці і трагедыі, выбоістыя пуцявіны беларускага лёсу.

*(Працяг будзе)*

**Ада Чачуга**



*На сустрэчы ў царкве Кірылы Тураўскага. Фота зрабіла моладзь з „Васілька“. Справа: Анточ Шукелайць, Юля Андрусішына; злева: аўтарка тэксту, Вера Бартуль, Аня Бартуль, Маргарыта Шабуня-Пярова з Ленінграда — цётка Данчыка.*

працягу двух апошніх месяцаў два падарожжы ў братнія Праваслаўныя цэрквы ў Італіі і Партугаліі.

Карыстаючыся нагодай, хачу на старонках Вашага часопіса расказаць у некалькіх словах аб праваслаўных на Захадзе, якія знайшлі малітоўную і кананічную лучнасць з нашай Царквою.

У Італіі даўным-даўно было зацікаўленне Праваслаўем, яно пачало там жыць поўным жыццём дзякуючы стварэнню праваслаўнай епархіі з архірэйскай сядзібаю ў Аквілеі. Цяпер гэтая епархія налічвае каля 15 парафіяў і місіяў. Яна вельмі актыўная, спалучае візантыйскія традыцыі з традыцыямі заходняе культуры. Праваслаўе ў тых краях карыстаецца зацікаўленнем у розных асяроддзях, асабліва ў моладзі. Можна меркаваць, што гэта звязана з упадкам касцельнае заходняе культуры.

Важнай падзеяй было наведанне дэлегацыяй могілкаў на Монтэ-Касіна, на якіх знайшлі вечны спачын астанкі многіх праваслаўных салдатаў, а сярод іх — не мала сыноў Беластоцкай зямлі. Дадзена мне было на гэтых могілках як першаму пасля вайны праваслаўнаму епіскапу адправіць паніхіду.

Яшчэ некалькі слоў пра Партугалію. Гэтая краіна, як ведама, была і надалей застаецца рымска-каталіцкай. Адкуль жа ўзялося ў ёй Праваслаўе? Аказваецца, прынёс яго ў гэтую краіну партугалец — архімандрыт Гаўрыіл, цяперашні мітрапаліт Лісабона і ўсяе Партугаліі. Паходзіць ён з арыстакратычнага роду — малады маркіз прыняў Праваслаўе. Нейкі час ён служыў святаром на Захадзе, між іншым, быў спавядальнікам у вельмі блізкім нам жаночым манастыры пад Парыжам, які цесна звязаны з нашай праваслаўнай Лясною. Яго місія пачалася каля 15 гадоў таму назад і прынесла шчодры плён. У партугальскай Царкве цяпер гуртуецца болей за 15 тысяч актыўных членаў Праваслаўнае царквы: інтэлігенцыі, рабочых, сялян. Многія вёскі суцэльна праваслаўныя. У Партугаліі Праваслаўная царква цяпер мае трох архірэяў, тры епархіі, чатыры манастыры, 53 парафіі (у тым ліку 3 у Іспаніі і 10 у Бразіліі). Гэтая Царква нядаўна звярнулася да нашае Царквы з просьбай прыняць яе ў малітоўную лучнасць. Чаму якраз да нас? Несумненна, пэўную ролю адыгрываюць у гэтым сувязі мітрапаліта Гаўрыіла з манастыром у Лясной, які, як вядома, раней знаходзіўся на тэрыторыі Польшчы. Па-другое, нас лічаць своеасаблівым мастом паміж Усходам і Захадам, таму можам лепш разумець нашых братоў з Партугаліі. Па-трэцяе, нарэшце, палажэнне, у якім знаходзіцца Праваслаўная царква ў Партугаліі, падобная на тую, у якой мы знаходзімся: як мы, так і яны жывём у моры іншаверцаў.

Душпастырскія сувязі, пра якія я прыпомніў, даюць многа фактаў для роздумаў, часта звязаных з маёй навуковай і выхаваўчай працай.

**„Н.:“** Якія ў Вас, Уладыка, планы на бліжэйшую і далейшую будучыню?

**Арх. Сава:** Планы кожнага чалавека залежаць ад волі Божай. Ці ж магу сказаць што-небудзь іншае? Усё ў руцэ Госпада.

Канчаючы, хачу Чытачам „Нівы“ перадаць пажаданні Боскага бласлаўлення, а ў святле маіх візітаў у Партугалію і Італію таксама зычыць, каб мы лепш і глыбей разумелі сваю асаблівую місію ў сувязі з нашым знаходжаннем у Польшчы. Гэтае наша палажэнне павінна ўсіх нас мабілізаваць да з'яднання ў адзінства, у маналіт. Бо калі народ падзелены, не прыносіць гэта ні яму, ні Царкве карысці, а толькі шкоду.

**„Н“.:** Ад усяго сэрца зычым Вашаму Высокапраасвяшчэнству, каб Гасподзь Бог успамагаў Вас у здзяйсненні Вашых намераў і захаваў у добрым здароўі на многія, многія леты.

Гутарыў **М. Гайдук**

# Каляды вечар у Чыкага

**(Працяг са стар. 6)**

ў жэле. Не кожны ж з тых, хто часова прыехаў сюды, можа дазволіць сабе, каб купіць гэту рыбу, сказаў ён. Валянціна Яканюк і Крыстына Ендрыхоўская-Косяк падрыхтавалі дасканалыя селядцы, Ніна Міцько падсмажыла рыбу, а Таіса Шышко зрабіла рыбу па-грэцку. Людміла Нягода прынесла грыбы, смажаныя з цыбулькай, Марыя Каленік — арыгінальны кісель з рыбай. Вера Шышко падсмажыла дасканалыя дражджовыя піражкі, а Тамара Бандарук і Зінаіда Мельнічук зрабілі чырвоны боршч з грыбамі і кампот з сушаных грушак. Да сёння не магу забыць і піражкі з капустай і грыбамі Марыі Маншула. Накрываць сталы дапамагала Габрыеля Калтаноўская.

Можа не ўсіх я тут пералічыла, бо памагалі часта цэлыя сем'і і стараліся стварыць цудоўную, непаўторную атмасферу.

А на другі дзень усіх самотных беларусаў запрасілі ў сваю хату Алекс і Таіса Шышко. Была цудоўная гасціна і атмасфера, а гаспадары скромныя, хаця яны часта дапамагаюць фінансава пры арганізаванні розных урачыстасцей.

Вельмі хацела б я, каб усе гэтыя скромныя людзі ведалі, наколькі важная і вялікая іх праца і як яна нам патрэбная.

Не падпісваюся сваім прозвішчам, паколькі пішу ад імя многіх беларусаў, якія часова апынуліся ў Чыкага, але падаю да ведама рэдакцыі сваё прозвішча і адрас у Бельску-Падляшскім.

Жадаю працаўнікам „Нівы“ ўсяго добрага ў Новым годзе!

**(Г.К.)**




**САСНА (Беласток). Пазнаёмлюся з маладымі людзьмі, якія цікавяцца літаратурай, фільмам і домам (кухня, мэбля, гадоўля хатніх раслін), падарожжамі.**

**КАШКА (Беласток). Люблю пісаць і атрымліваць лісты. Цікаўлюся псіхалогіяй, літаратурай і жыццём.**

**ТАНЯ (Гродна). Замужняя (адно дзіця), юрыстка. Цікавіцца электронікай, англійскай мовай, выхаваннем дзяцей.**

**ОЛЯ (Гродна). 18 гадоў. Пазнаёміцца з хлопцам з Беласточчыны.**

**ТАШКА (Гродзенская вобласць). 18 гадоў, полька. Пазнаёміцца з хлопцам з Беласточчыны.**

**Чакаем вашых лістаў. Падайце псеўданім, дакладны адрас. Зазначце, ці за карэспандэнцыяй вам прыйдзеце ў рэдакцыю, ці выслаць вам яе дахаты.**

**Забяспечана абсалютная сакрэтнасць!**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




# На хутары

Не хацела Тэкля Маньку мець за нявестку, ой, як не хацела! Як ніколі. Пяцёра старэйшых сыноў пажаніла з дзяўчатамі добрымі, не наракала. Праўда, потым у сем'ях парознаму бывала, але мацярынскае сэрца ўжо не балела. І дачку выдала замуж, за хлопца, пра якога дрэнная слава даходзіла аж на іхні хутар. Але калі ажаніўся, пасталеў, стаў такім чалавекам, што кожны пазайздросціць ёй такога зяця. І наймалодшы, Трахім, знайшоў сабе дзяўчыну, з суседняй вёскі. І пра яе нічога кепскага не скажаш, дзеўка як дзеўка: і нябрыдкая, і здаровая, і рук за пазухай не трымае. Але Тэкля сказала Трахіму: „Не!"

Тэкля кожную будучую нявестку вяла ў сваю каморку і там размаўляла з ёю шчыра — выпытвала, сама адкрывалася перад дзяўчынай і нейкім старым способам выцягвала ўсе сакрэты, раіла.

Прывёў і Трахім сваю Маньку ў адну нядзелю пасля абедні. Тэкля вярнулася з царквы. Хоць далекавата было і сама ўжо нядужая, хадзіла ў царкву амаль кожную нядзелю і па святы, ды й бацюшка ахвотна да Тэклі заходзіў, калі было яму па дарозе, бо, як казаў, рэдка спаткаеш цяпер людзей з чыстай душой ягняці. І Іван, мужык Тэклі, быў добры і набожны чалавек... Маладыя ў царкву рэдка заходзілі, але, відаць, такі цяпер ужо час. Тэкля ўсіх сямёра вучыла ад малога закону Божаму, вадзіла іх у царкву. Але ўсе неяк адбіліся, хоць кожны адчуваў сябе праваслаўным, „рускім", нават тыя сыны, што ў вялікія гарады павыязджалі. А наймалодшы? Калі ён нарадзіўся, Тэклінай найстарэйшай унучцы было ўжо тры годзікі. Вось якое яно, гэтае новае пакаленне: зусім розныя дзяды і ўнукі. Трахім, які ніколі не мог дараваць бацькам, што яму далі такое вясковае імя, быў ад малога добрым дзіцём, навучыўся дапамагаць маці ў „бабскай" рабоце і добра з гэтым спраўляўся. І пакуль не навучыўся курыць папяросы (у 15 гадоў) і бегаць па вясковых забавах, не мела Тэкля з ім ніякіх праблемаў. Ну, трошкі піў. Перадалі яму зямлю, стаў Трахім гаспадаром — з канём, старым плугам, разваленымі хлявом ды клуняй... Пачаў шукаць жонку.

Бацькі былі ўжо старэнькія. Як старыя вольхі над сажалкай, аж чорныя ад гадоў, і толькі ўжо глядзяць вачыма ў чорную перад імі ваду — у мінулыя гады. Але Тэкля старалася разумець сына: чаму ён так прагна глядзіць у тэлевізар? Свет іншы хоча пабачыць!..

...Прывёў Трахім дахаты Маньку, адзіную дзяўчыну, якая не паляцела ў гарадскі вырай. Ці тут чакала свайго шчасця? Хтосьці і з яе сям'і вымушаны быў застацца, каб зямлю не аддаць у чужыя рукі, або ў аблагі. Паклікала Тэкля будучую нявестку ў сваю каморку, а тая заперлася:

— Няма аб чым гаварыць. Або мяне хочаце, або не. Я тут вам ласкі не раблю. Такіх, як ваш Трахімка, сотнямі можна тут перабіраць, нават сярод багацеяў, не тое, каб ісці на гэты замурзаны хутар!

Тэкля аперлася аб касяк дзвярэй:

— Ой, дзіця, дзіця. Я ж хацела з табою пагаварыць, як маці, перадаць усё, што мне цёшча і маці гаварылі. Смерць мне ўжо ў вочы заглядае. Ты тут будзеш гаспадыняй і мацеркай. Табе перадам усё, што тут нажыла!

— Многа вы тут нажылі — кучу дзяцей! Калі б так гаспадарыць, з торбамі можна б пайсці!

— Калі табе тут не падабаецца... Вядзі яе, Трахім, адкуль прыйшла!

— Яна тут застанецца.

— Не дазволю!..

— Так ці не, мы пажэнімся. Не чапляйцеся да яе, мама, бо ворагам вам стану. Бацька згадзіўся, і вы мусіце!

Падалі „на калейку" ў ЗАГС. Тыдзень перад вяселлем Тэклю пахавалі. Якое ж гэта вяселле — без музыкі, без танцаў? Гасцей было шмат, але хутка раз'ехаліся.

Пачалі будавацца. Спачатку збудавалі хлеў і клуню. Паставілі вялікую, двухпавярховую муравянку. Купілі трактар, капачку на бульбу, жняярку...

Бацька застаўся ў старым доме. Манька час ад часу пасылала сыноў, каб занеслі дзеду шклянку малака ці міску стравы, часам памыла яму пасцель (часцей гэта рабіла аднак суседка з-за хваінкі).

Купілі жніўны камбайн. Збудавалі сіласы і тры цяпліцы. Купілі грузавік. Вазілі цяпер гародніну прадаваць у горад.

Стары Іван памёр ранняй зімою. Зямля яшчэ не была зацвёрдай. На пахаванні было шмат людзей — добры быў чалавек. Манька шчодра частавала ўсіх на мярлінах. Госці пасядзелі гадзінку, паўспаміналі старых.

Манька ўвайшла ў пакой:

— Ну, канец гасцяваць. Час збірацца дахаты — упраўляцца трэба.

**МІРА ЛУКША**




Дарагое Сэрцайка, пішу табе і крыху саромеюся, бо хачу гаварыць з табой пра надта інтымныя справы. З хлопцам маім мы ходзім ужо амаль год. І ён і я — студэнты. Вядома, як гэта сёння ёсць: моладзь сёння рана пачынае сексуальнае жыццё, бо пакуль вышэйшую школу скончыць, дык і маладосць пройдзе. Я свайго хлопца вельмі кахаю, але ёсць у нашых адносінах адна справа, якая пакрысе пачынае адпіхаць мяне ад яго.

Мой хлопец ведае, што ён прыстойны. І надта любіць любавацца сабой. Ён гадзінамі можа праводзіць час перад люстэркам, прычэсвацца, строіцца, выкручвацца, як баба. Заўсёды гэта я мушу выслухоўваць расказы пра яго поспехі, як яму цудоўна ўдалася тая ці іншая справа, як ён бліскуча здаваў экзамен, якую цікавую кніжку чытае ён, як усе дзяўчаты сохнуць па ім.

А я дык наадварот — не люблю хваліцца сваімі поспехамі і не лічу, што ўсе мужчыны становяцца перада мной на калені. Мне гэта проста непатрэбна. Калі я кахаю аднаго чалавека і мне з ім добра, дык чаго, здаецца, хацець яшчэ?.. І таму я найчасцей выступаю ў ролі слухача, але маю быць пры гэтым яшчэ ўдзячным слухачом, цешыцца, што ён мне гэта расказвае, бо інакш мог бы яшчэ абразіцца.

Але ўсё гэта, кажу табе, Сэрцайка, шчыра, можна было б яшчэ перанесці. Напэўна гэта не адпіхала б мяне ад яго. Справа аднак у тым, што ён такі самы і ў пасцелі: страшэнна любіць, каб яго ласкалі, кахалі, цалавалі. Я разумею, што ўсё гэта людское, нармальнае, але ж кожны чалавек гэтага хацеў бы! Яму ніколі не прыходзіць у галаву, што і я чакаю яго пяшчот, мне хочацца, каб ён цалаваў мяне не толькі ў губы, але і па ўсім целе і па грудзях, а можа і яшчэ далей. Ён нават не разумее таго, што я кожны раз, калі мы сустракаемся, чакаю гэтага. А ён застаецца цвёрды і робіць толькі тое, на што мае ахвоту. А мае ахвоту менавіта, каб яго ласкалі і песцілі.

Часамі мне прыходзяць у галаву такія думкі, што мо я яму зусім не падабаюся, можа проста яму патрэбная жанчына, дык задавальняе свае сексуальныя жаданні. А можа ён толькі гэткім спосабам умее кахаць? Скажы, Сэрцайка, ці ёсць якаясьці рада на гэта?

**Юля**

Юля! Твой хлопец — Нарцыз, займаецца галоўным чынам самалюбаваннем. У вашай сувязі ён бачыць толькі сябе. І цябе ён бачыць толькі праз сваю прызму, наколькі ты яму патрэбная. Відаць, не ўмее ён быць аддадзеным усёй душою другому чалавеку... Не будзе з яго добрага мужа.

А наогул, — што ён — ляжыць і чакае? Дык мо варта крыху прытрымаць яго. Відаць, прывучыла ты яго да тваёй актыўнасці. Спрабуй быць больш пасіўнай і ў гэтых справах, а тады паглядзіш, што з гэтага будзе. Але мусіш быць падрыхтаваная, што можа быць па-рознаму: альбо ён памудрэе, альбо кіне цябе і знойдзе іншую дзяўчыну, якая будзе яго так, як ты калісьці, абнімаць, цалаваць і песціць. Рызыкні, аднак!

**Сэрцайка**




### РЫБА З ПЯЧУРЫЦАМІ

На 1 кг карпа, лешча, ці судака ўзяць 10 дэкаў цыбулі, 40 дэкаў пячурыц, 10 дэкаў саланіны, 4 лыжкі алею, 10 дэкаў малых цыбулек, 1 шклянку чырвонага хатняга віна, 1 лыжку мукі, соль, перац, зялёную пятрушку.

Рыбу памыць, ачысціць, абрэзаць хвост і галаву, а пасля гэтага зрэзаць філе і нарэзаць яго ўпоперак на порцыі. Крыху пасыпаць порцыі рыбы мукою. Саланіну нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі, крыху яе падсмажыць, а на растопленым тлушчы падсмажыць рыбу. Ачысціць пячурыцы, памыць іх, нарэзаць. Абабраць цыбулю, спаласнуць, пасячы і палажыць на патэльню, на якой смажылася рыба. Пасаліць, падагравáць, а калі змякне, дадаць алей, а на яго кінуць падрыхтаваныя пячурыцы і хвіліну тушыць. Пасля дадаць абабраную і спаласнутую малую цыбульку, даліць віна, закіпяціць. Рыбу палажыць у каструльку, перакладаючы яе пячурыцамі і цыбулькамі, пасыпаць соллю і перцам, палажыць на гэта скрылёчкі саланіны, даліць соусу з патэльні, накрыць і тушыць на малым агні каля 15 мінут. Гатовую пасыпаць пасечанай пятрушкай.

### РЫБА ПА-НЕЛЬСОНСКУ (ЛІНЬ, КАРП)

На 1 кг рыбы бярэм 10 дэкаў тлушчу, паўтары лыжкі мукі, 1 кг бульбы, 3 дэкі сушаных грыбоў, 20 дэкаў цыбулі, шклянку смятаны, соль, перац, 2-3 лыжкі пасечанай зеляніны.

Грыбы памыць, зварыць і дробна пасячы. Памытую бульбу абварыць у лупінах (варыць каля 15 мінут), тады абабраць яе і нарэзаць скрылёчкамі. Абабраць цыбулю, спаласнуць, нарэзаць яе паўкружкамі, падсмажыць на тлушчы.

Рыбу памыць, ачысціць, адрэзаць галаву, тады разрэзаць уздоўж хрыбта і зрэзаць філе, а таксама вынядь косці. Мяса нарэзаць кавалкамі шырынёю каля 2-3 см, пасыпаць прасеянай мукой і крыху падсмажыць на тлушчы, пасаліць, пасыпаць перцам. Каструльку змазаць тлушчам, класці пластамі бульбу, цыбулю, перамешаную з грыбамі, і порцыі рыбы так, каб першым і апошнім пластом была бульба. Кожны пласт пасыпаць соллю і перцам. Смятану перамяшаць з адварам з грыбоў, пасаліць, заправіць перцам па смаку. Заліць рыбу і ўставіць яе ў духоўку ды запячы. Падаючы гэту страву ў каструльцы, у якой яна запякалася, пасыпаўшы зверху дробна пасечанай зялёнай, падаюць найлепш з зялёнай салатай ці салатай з капусты.

**Гаспадыня**




Я жыву ў Беластоку, а сніцца мне, што я знаходжуся на вёсцы. На панадворку растуць вішні. Гляджу, каля адной сабралася многа дзяцей і ўнучак маіх суседзяў з блока з імі разам. Ён першы лезе на вішню, залез на самы верх, а за ім і іншыя дзеці палезлі. І вішня заламалася. Усе дзеці пападалі на зямлю. Тут я і прачнулася. А калі заснула, ізноў прысніўся мне сон. Ужо я ў Беластоку, у сваёй кватэры. На зямлі стаяць кветкі: кактус і мірт. Увахо дзіць нейкая жанчына і як ні махне рукой па гэтых кветках. І яны зламаліся. Я са здзіўленнем гляджу на яе, а яна кажа: „Там нейкае насякомае лазіць, я хацела яго скінуць...". Мне стала вельмі шкада кветак, асабліва мірта. І канец сну. Астроне, што могуць абазначаць гэтыя сны?

**Марыся**

Дарагі Астроне, прыснілася мне, быццам я прычэсваю свае валасы. І валасы нібы някепскія, але калі я вымаю з іх грэбень, то бачу, што яны страшна вылазяць. Але я прычэсваюся далей і ўсё думаю: Божа, каб хоць дзе якая вош не вычасалася, бо ж сораму не абярэся перад людзьмі. А на валасах і сапраўды відаць нешта беленькае — быццам гніды...

**Валянціна**

Марыся! Абодва твае сны нядобрыя. Прадвяшчаюць яны прынамсі хваробу, а можа нават і смерць некага блізкага.

А твой сон, Валянціна, абазначае нейкую страту. Буйныя і прыгожыя валасы сведчаць аб дастатку, а ў цябе ж яны вылазілі і грошай (вашэй) не было, а толькі былі яны ў думках.

**Астрон**



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Зорка
## старонка для дзяцей

Анатоль Астрэйка

## ЗІМОВЫ МАЛЮНАК

Імчацца з сівай поўначы
Нябачныя вятры,
Халоднай золлю поўнячы
Палеткі і бары.

І воблакі кудлатыя
Плывуць, плывуць здаля.
Яны нібыта ватаю
Заслалі далягляд.

Шуміць, пяе мяцеліца,
Балюе за акном.
На дол сняжынкі сцелюцца
Кужэльным палатном.

Мароз за шчокі шчыплецца,
Кусае за насы.
Хай снег, як ласка, сыплецца,
На нівы і лясы.

Вясною воды ўвішныя
Напояць збажыну.
Зіма снягамі пышнымі
Нам вырасціць вясну.

Ніна Фядотава

## ХАТНЯЕ ЗАДАННЕ

Сяргейка ходзіць у нулявы клас. Там рыхтуюць дзяцей да першага класа. Бываюць нават урокі, няхай сабе і кароценькія, але ўсё роўна ўрокі!

Выхавацелька на нядзелю задала заданне: падрыхтаваць маленькае апавяданне на тэму: „Смешны выпадак".

Дзеці вельмі старанна выканалі хатняе заданне. Некаторыя прыгадалі нават па некалькі смешных выпадкаў. Сяргейка вырашыў расказаць, як летам яны з татам лавілі рыбу, а ён злавіў жабу.

Цяпер ён сядзеў і цярпліва



чакаў, калі яго паклічуць адказваць. А выхавацелька выклікала першым не яго, а Алеську. І Алеська пачаў:

— У нядзелю ў нашым двары было столькі смеху, што аб усім і не ўспомніць. І зараз раскажу аб самых смешных выпадках. Вось адзін. Выйшла Ніна на двор у новай сукенцы. Пецька ёй падставіў падножку. Хляпнулася Ніна ў лужыну і праехалася па вадзе. Вось смеху было, пакуль яна з бруду абтрасалася.

А потым мы гулялі ў футбол. Пецька падбег да Сяргейкі і замест таго, каб адабраць у яго мяч, як стукне яго па назе. Сяргейка так закрычаў, што ўсе ледзь ад смеху не пападалі!

У класе зрабілася ціха.

Сяргейка зусім забыўся, што гэта ўрок, усхапіўся ды закрычаў:

— Што ты, Алеська! Ці ж гэта смешныя гісторыі! Ніну шкада было. А мне было не смешна, а балюча!

Выхавацелька паківала галавою, а потым спытала ў дзяцей:

— Як вы думаеце, ці можна смяяцца з таго, што расказаў Алеська?

З РАЁННАГА ДЭКЛАМАТАРСКАГА КОНКУРСУ

## АЖЫВІЦЬ СЛОВА

Як ажывіць слова, як напоўніць яго зместам, як перадаць яго слухачу, каб той зразумеў адразу дакладна тое, што дэкламатар хоча яму сказаць — вось тэма, якую абмяркоўваў з удзельнікамі раённага дэкламатарскага конкурсу ў Беластоку спецыяліст па гэтай справе, прарэктар мінскага Тэатральна-мастацкага інстытута і мастацкі кіраўнік Тэатра жывога слова Андрэй Каляда. Яго ўвагі ўдзельнікам, зробленыя пасля конкурсу, стануць вялікай падмогай нашым маладым дэкламатарам. Трэба, казаў наш госць, каб артыст дэкламаваным тэкстам выказваў уласныя пачуцці, свае адносіны да яго.

І таму найвышэй прарэктар Каляда ацаніў тых дэкламатараў, якія не толькі правільна і выразна перадалі завучаны тэкст, але выявілі нейкую хоць бы іскрынку акцёрства, свайго ўласнага падыходу да твораў.

А потым выступілі студэнты з Мінска, якія працуюць пад мастацкім кіраўніцтвам Андрэя Каляды. І яны на прыкладах паказалі, як можна дэкламаваць і спяваць, як надаць твору сваю асабовасць. І быў гэта цудоўны паказ, канцэрт, які вельмі ж спадабаўся дзецям. Былі ў рэпертуары студэнтаў і сур'ёзныя, нават патрыятычныя тэксты, былі і вельмі жартоўныя, вясёлыя. Дзяўчаты і хлопцы дэкламавалі, спявалі і гралі на гітары. Вёў канцэрт настаўнік і артыст гэтага тэатра Юрка Чарэнка.

Але ўсё гэта было пасля. А спачатку адбыўся сам конкурс. Выступілі лаўрэаты школьных дэкламатарскіх конкурсаў. У раённым аглядзе ў Беластоку выступілі дзеці з трох гмінаў: Нарвы, Нараўкі і Заблудава. Не было нікога ні з Беластока, ні з Гарадка. Затое з Нараўскай гміны выступілі дзеці з кожнай школы: з Нарвы, Трасцянкі, Ласінкі і Крыўца. Падрыхтавалі іх настаўніцы Ірына Юрчук, Анна Мінко, Ніна Абрамюк і Надзея Міхальчук.

З Нараўчанскай гміны прысутнічала толькі школа з Ляшукоў. Тут дэкламатараў рыхтавала настаўніца Галіна Харкевіч. Была таксама адна дзяўчынка з Рыбалаў. Яе рыхтавала да конкурсу настаўніца Лідзія Смалеўская.

Вучні выступілі ў двух узроставых катэгорыях: 2—5 класы і 6—8. У групе старэйшых выступілі чатыры дзяўчынкі. Дзве з іх — Уршуля Кунцэвіч з Ляшукоў і Крыся Галубоўская з Рыбалаў — будуць удзельнічаць у цэнтральным конкурсе. Сярод малодшых выступілі дзевяць дзяўчатак і адзін хлопчык. На цэнтральны конкурс вытыпаваны былі Юліта Баршчэўская, Кася Максімчук з Трасцянкі і Андрэй Монах з Ласінкі.

Журы раённага агляду ў Беластоку, у склад якога ўваходзілі такія знаўцы мастацкага слова, як прарэктар Тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску і мастацкі кіраўнік тэатра жывога слова Андрэй Каляда і артыст Юрка Чарэнка, выказала задавальненне, што дзеці ў Польшчы так добра ведаюць нашу мову, цікавяцца беларускай літаратурай, але звярнулі таксама ўвагу і на тое, што на цэнтральны агляд артысты павінны яшчэ больш папрацаваць над тэкстам і над сваімі адносінамі да яго.

Тыдзень пазней адбыўся і цэнтральны агляд дэкламатарскага конкурсу. Але аб тым ужо — пазней.

А пакуль што хочацца падкрэсліць даволі масавы ўдзел вучняў з тых школ, дзе навучаецца беларуская мова. Дзеячы Беларускага таварыства запэўніваюць, што, як і ў мінулым годзе, а можа яшчэ шырэй, лаўрэаты конкурсаў змогуць пабываць на Беларусі.

Яніна Чэрнякевіч



АДГАДАНКА

Пакажы лыжніку знайсці дарогу да базы.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



Знайдзі дзве аднолькавыя сняжынкі.

Уладзімір Мацвеенка

# ЗАГАДКІ

## ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

31

**Месяц гэты вузкі, гнуткі,
У яго знутры ёсць зубкі.
Ён калісьці вельмі дбайна
Жыта жаў замест камбайна.**

32

**Паміж бяроз
На кусце рос.
Як спелым стаў,
На зуб папаў.**

33

**Вынеслі з сасоннікаў
Горку парасонікаў.**

34

**Залацістыя арэхі
Прыхавала я ў дупло,
Дождж ліне,
Нібы з прарэхі, —
Дык каб іх не заліло.
Смела сцюжу сустракаю,
Не палохае мароз,
Бо запас арэхаў маю
І, як коўдру, —
Цёплы хвост.**

35

**Мыш не мыш,
Жыву я ў полі,
Ветрам дыхаю на волі,
За шчакой кішэню маю,
Яе зернем напаўняю.**

**Адказы на загадкі — у наступным нумары.**

Адказы на загадкі з папярэдняга нумара: 26. Рамонкі. 27. Бабёр. 28 Жабка. 29. Маланка, гром. 30. Лён.

# Вучнёўская творчасць

**Вершы дзяцей са школы ў Ласінцы.**

### СНЕГ

Быццам пер'е, ляціць з неба
Белы, лёгкі, мяккі снег.
Дзецям снегу многа трэба,
Каб на санках пашалець.

Хутка да нас свята прыйдзе.
На падаркі прыйшоў час.
А яны, як зорка ўзыйдзе,
Ужо пад ёлачкай ляжаць.

**Ася Астапчук, 8 кл.**

### ЗІМА

Прыйшла зіма суровая.
Вецер стукае ў акно.
Моцна шчыпле за нос
Кепскі дзядзька Мароз.

Злы і люты дзень...
Раптам стала прыгажэй:
З неба сыплюцца сняжынкі,
Імі ўсё ўжо пакрылася.

**Ася Кандрацюк, 8 кл.**

### НА ЎРОКУ

На ўроку ў школе
Ціха ўсе сядзяць.
Слухаюць настаўніцу,
Каб усё пазнаць.

Яна нам паясняе,
Каб ведалі ўсё.
Мы ёй вельмі ўдзячны
За тое дабро.

**Ася Філіповіч, 8 кл.**

### ВАДА

Плюшча ўзбурана вада.
Хоча вырвацца яна.
Кропелькі яе ляцяць.
Вельмі ж злосная яна.

**Крыся Плева, 8 кл.**

### МІХАСЬКА

Наш Міхаська
Вельмі ж злосны.
Не падыходзь ты да яго.
Бо, як у злосць яго ўвядзеш, —
Быць бядзе!

**Еля Хадакоўская, 8 кл.**

# Паглыбляй свае веды

## ДЗІЎНЫЯ НАЗВЫ

Гарады, моры і горы носяць імёны вялікіх людзей, некаторыя назвы атрымліваюць яны ў гонар гістарычных падзей.

Але не ўсе назвы траплялі на карту прадумана, бо гэтага былі варты. Напрыклад, самая высокая гара ў свеце доўгі час была вядомая пад назвай Эверэст. Гэта было імя каланіяльнага чыноўніка Джорджа Эверэста, які заслугоўваў толькі, каб даць яго імя хіба што гары з паперы.

Некаторыя назвы з'явіліся на картах свету ў выніку непаразумення. Напрыклад, мыс Ном на Алясцы. У мінулым стагоддзі слова Ном напісаў на карце французскі марак, каб не забыцца, што мыс яшчэ не названы. Ён прыпісаў побач: „Імя?" (па-французску — „ном"). А калі выдавалася ўпершыню навігацыйная карта Берынгавага мора, картографы вырашылі, што гэта і ёсць назва мыса.

А вось адна з найдаўжэйшых назваў у свеце: „Ciudad de la Santissima Trinidad y Puerto de Nuestra Seniora la Virgen Maria de los Buenos Aires" (у перакладзе гэта абазначае: Горад святэйшай Тройцы і порт нашай пані дзевы Марыі, патронкі спадарожных ветраў). Такую назву далі іспанцы гораду ў 1535 годзе, калі яны трапілі ў Паўднёвую Амерыку. З часам ад гэтай пышнай назвы застаўся толькі хвосцік: горад, стаўшы сталіцай Аргенціны, цяпер называюць проста Буэнас-Айрэс, а часам і скарочана — Байрас...

## РАСКАЗЫ АБ ПРЫРОДЗЕ

**Рыгор Ігнаценка**

### АМЯЛУШКІ

Пасярод нашай вёскі расце высачэзная алешына. Усе хлапчукі завуць яе чэмпіёнам.

Аднойчы ўбягае ў дом мая сямігадовая дачка і кажа:

— Татка, ідзі хутчэй паглядзі, хто на алешыне!

Мы выйшлі на двор. Пад нагамі мякка пахруствае першы сняжок. Стрэхі дамоў былі белыя. На слупах агароджы ляжалі тоўстыя пуховыя шапкі.

Я зірнуў на дрэва. На алешыне сядзелі чубатыя стракатыя птушкі. Крыльцы і канцы хвастоў у іх былі белыя з жоўтымі палоскамі. Здавалася, быццам дрэва зацвіло.

— Гэта амялушкі да нас прыляцелі!

— Адкуль?

— З поўначы. Там зараз холадна і галадна. А ў нас зіма мякчэйшая і корму болей у лясах. Вось яны і прыляцелі на зіму ў нашыя месцы.

— А вясною?

— Вясною зноў да сябе на радзіму вернуцца.

### КЛАДКА

Каб зручней было ў лес хадзіць, Саня перакінуў цераз ручай аполак.

Хадзіў па кладцы цэлае лета, восень — і не думаў, што нехта яшчэ ёю карыстаецца. А як выпаў снег, аказалася, што шмат хто кароткую дарогу любіць.

Аднойчы Саня ўбачыў на кладцы сляды зайца, які ноччу прыходзіў у вёску і назад у лес вяртаўся.

Другі раз на ёй быў доўгі ланцужок лісіных слядоў.

І тхор па кладцы хадзіў, і курапатка ранкам пёркі тысціла і на мяккім снезе крыжыкі слядоў пакінула.

А аднойчы нават дзік па кладцы прайшоўся, відаць, тонкага лёду збаяўся.

Вось як добра атрымалася: рабіў хлопчык кладку для сябе, а карыстаюцца ёю і звяры, і птушкі.

# А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Размалюй лясную ёлку для звяроў каляровымі алоўкамі.
Малюнак Ірыны Цыбік-Лемеш.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# TV TELEWIZJA WARSZAWA

## PIĄTEK

**4 I 1991 r.**

### PROGRAM I

7.40 „Express gospodarczy”
8.00 „Dzień dobry”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Domowe przedszkole”
9.35 Film fab.
10.35 „Szkoła dla rodziców”
11.55 Aktualności telegazety
12.00 „Było sobie życie”
12.30 „Józef Bem” (2)
13.00 „Opowieści o rybach”
13.30 „Ermitaż” (5)
14.00 Agroszkoła
14.30 Jęz. angielski (17)
15.00 MEN informuje
15.05 Pejzaż w malarstwie polskim
15.10 Portrety w malarstwie polskim
15.30 Polsko-niemieckie seminarium nauczycielskie
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości popoł.
16.10 „Video-Top”
16.20 „Ciuchcia”
17.15 Teleexpress
17.30 „Raport”
17.55 „10 minut”
18.05 „Odbicia” (2) — serial pol.
19.00 Od „Kapitału” do kapitału
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 Film fab.
21.10 „New York, New York”
21.40 Turniej 4 skoczni
21.10 Panorama światowego sportu
22.40 Weekend w „1”
22.50 Wiadomości wieczorne
23.05 Program rozrywkowy

### PROGRAM II

8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa”
9.10 Magazyn TV Śniadaniowej
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
11.00 Film fab.
12.50 „Crime story” — serial USA
13.40 „Express gospodarczy”
14.00 CNN — Headline News
14.20 „Przegląd prasy”
14.30 Program public.
15.00 „Ulica Sezamkowa”
16.00 „W labiryncie” (powt.)
16.30 Wzrockowa lista przebojów Marka Niedźwieckiego
17.00 „Noce i dnie” (6)
17.55 Kurs j. ang.
18.00—19.00 Programy regionalne
19.00 „Obserwator”
19.20—21.30 Programy regionalne
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Crime story”
22.45 Programy regionalne
23.05 „Obrazy, słowa, dźwięki” — pr. o sztuce
0.05 Komentarz dnia
0.10 CNN — Headline News
0.25 Noc z anteną „5”

## SOBOTA

**5 I 1991 r.**

### PROGRAM I

7.00 Program dnia
7.05 „W sobotę rano”
7.35 „Tydzień na działce”
8.05 Reportaż
8.20 „Piłkarska kadra czeka”
8.35 „Ziarno”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Wiatrak” oraz filmy: „Było sobie życie”, „Superman” — anim. serial USA
10.40 „Na zdrowie”
11.00 „Depresja” — wojsk. pr. publ.
11.25 TV Koncert Życzeń
11.55 „Z Polski rodem”
12.25 „Flesz”
12.55 „Laboratorium”
13.25 „Smak życia”
14.30 Filmy Disney'a
16.10 „U siebie” — magazyn mniejszości narodowych
16.40 „Butik”
17.15 Teleexpress
17.30 „Siódemka” w „1”
18.55 „Z kamerą wśród zwierząt”
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Miłość i nienawiść” — film kanad.
21.45 „Kontrapunkt”
22.10 Sportowa sobota
22.55 Wiadomości wieczorne
23.15 „Wariatka” — film USA

### PROGRAM II

8.00 Panorama dnia
8.10 Magazyn TV Śniadaniowej
8.35 Magazyn „Narty”
9.05 Magazyn TV Śniadaniowej
9.15 „Benny Hill”
9.45 Magazyn TV Śniadaniowej
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
10.40 „Cudowne lata”
11.05 „Bariery”
11.25 Program dnia
11.30 „Rodzina Brettów” (13)
12.30 „Zwierzęta świata”
13.00 „5-10-15”
14.00 „Kusza” — serial USA
14.30 Reportaż
15.00 Magazyn „102”
15.30 „Kontakt TV”
16.30 „Strefa mroku”
17.00 Wielka gra
18.00 Program lokalny
18.30 „Benny Hill”
19.00 „Obserwator”
19.30 Publicystyka kult.
20.00 Zagraniczne wojaże Poznańskiego Chóru Chłopięcego Jerzego Kurczewskiego
21.00 „Dwa + 2”
21.30 Panorama dnia
21.45 „Słowo na niedzielę”
21.50 „Rodzina Brettów”
22.40 Przegląd muzyczny
23.00 „Rozmowy bez sekretów”
23.50 Komentarz dnia
23.55 CNN — Headline News

## NIEDZIELA

**6 I 1991 r.**

### PROGRAM I

7.00 „Witamy o siódmej”
7.30 „Kraj za miastem”
7.55 „Po gospodarsku”
8.10 „Od niedzieli do niedzieli”
8.55 Program dnia
9.00 Teleranek oraz film z ser. „Niebezpieczna zatoka”
10.30 „Przerwana cisza” (3)
11.00 Koncert kolęd
12.00 „Notowania, czyli co się opłaca rolnikowi”
12.25 TV Koncert Życzeń
13.10 „Ściśle jawne”
13.35 „Tęczowy Music Box”
14.30 Magazyn „Morze”
14.50 W Starym Kinie: „Dwie Joasie” — pol. film archiw.
16.15 Szopka Noworoczna (powtórzenie z 31.XII.1990 r.)
17.15 Teleexpress
17.35 „Tele-wizjer”
18.00 Studio Sport
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.10 „Nie ma jak w domu” — film włoski
21.50 „7 dni — świat”
22.20 Sportowa niedziela
23.10 Wiadomości wieczorne
23.30 Program rozrywkowy

### PROGRAM II

6.25 Panorama dnia
6.35 „Kaliber 90”
7.05 „Przegląd tygodnia”
7.35 „Nie ma jak w domu” — film włoski
9.10 „Jutro poniedziałek”
9.30 Program lokalny
10.00 CNN — Headline News
10.10 „Jeśli nadejdzie jutro” (6)
10.55 Świat Gawędy
11.45 „Express Dimanche”
12.00 Program dnia
12.05 PKF
12.15 Koncert filharmoników krakowskich
13.30 100 pytań do...
14.00 „Bracia z wyboru” — serial kanad.
14.50 Muzyka małego ekranu
15.30 „Kontakt TV”
16.30 „Wspólny rynek” (10) „Francja”
17.00 Studio Sport
17.30 „Bliżej świata”
19.00 „Wydarzenie tygodnia”
19.30 Publicystyka kultur.
20.00 Przeboje Bogusława Kaczyńskiego
21.00 Wrocław na antenie „2”
21.30 Panorama dnia
21.45 „Jeśli nadejdzie jutro”
22.30 „Uśmiech z Galicii”
23.00 „Być jego żoną” — monodram cz. 3
23.30 Komentarz dnia
23.35 CNN — Headline News

## PONIEDZIAŁEK

**7 I 1991 r.**

### PROGRAM I

12.55 Aktualności telegazety
13.30 Spotkania z literaturą
14.05 Agroszkoła
14.35 Język francuski (14)
15.05 Zapraszamy
15.30 Uniwersytet Nauczyc.
16.00 Wiadomości
16.10 „Video-Top”
16.20 „Luz”
17.15 Teleexpress
17.35 Encyklopedia II wojny światowej
18.00 „10 minut”
18.10 „Czarne chmury” (1) — serial TP
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.10 Teatr TV: K. Brandys — „Pani King”
21.05 „Rzeczpospolita samorządna”
21.35 Leksykon pol. muz. rozr.
22.20 Wiadomości wieczorne
22.45 Język niemiecki (10)

### PROGRAM II

13.30 Powitanie
13.35 „Przegląd prasy”
13.45 Antena „2”
13.55 Kurs jęz. ang.
14.00 CNN — Headline News
14.15 „Konkurs 5 milionów”
15.00 „Zwierzęta wokół nas”
15.30 Film fabularny
16.30 „Widziane z Gdańska”
16.45 „Ojczyzna-polszczyzna”
17.00 Film fabularny
18.00 Program lokalny
18.30 Przegląd PKF
19.00 „Obserwator”
19.30 J. angielski (10)
20.00 „Auto-moto Fan Klub”
20.30 Seans filmowy
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 Film fabularny
22.55 „Rozmowy o cierpieniu”
23.10 Komentarz dnia
23.15 CNN — Headline News

## WTOREK

**8 I 1991 r.**

### PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Domowe przedszkole”
9.35 „Bar na dworcu w Koluszkach” — pol. film fab.
11.05 „Przyjemne z pożytecznym”
11.55 Aktualności telegazety
12.00 „Wokół nas”
12.30 „Wśród ludzi”
13.00 Chemia
13.30 Spotkania z literaturą
14.05 Agroszkoła
14.35 „Tele-radio-komputer”
15.05 „Jedwabny szlak” (11)
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości
16.10 „Video-Top”
16.20 „Tik-Tak”
16.40 „Misia Yogi wyprawa po skarby”
17.15 Teleexpress
17.35 „10 minut”
17.45 Teatr TV — „Klik-Klak”
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.10 „Bar na dworcu w Koluszkach” — film pol.
21.45 „Listy o gospodarce”
22.15 „Stalin” (1) — ang. film dok.
23.15 Wiadomości wieczorne
23.40 Język fran[illegible]

### PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa”
9.10 Film
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
11.00 Reportaż
11.15 Film fab.
12.15 Film dok.
13.15 Program dnia
13.20 „Przegląd prasy”
13.30 „Dookoła świata”
14.00 CNN — Headline News
14.15 Magazyn ekologiczny
14.45 Studio Aktywnej Telewizji
15.00 „Ulica Sezamkowa”
16.00 „W kontakcie ze światem”
17.00 „National Geographic”
18.00 Program lokalny
18.30 Modlitwa wieczorna
19.00 „Obserwator”
19.30 Język angielski (40)
20.00 Wrocław na antenie „2”
21.00 Publicystyka
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Miesiąc nadziei” — ang. film fab.
23.35 „Teatr, czyli świat”
0.05 Komentarz dnia
0.10 CNN — Headline News

## ŚRODA

**9 I 1991 r.**

### PROGRAM I

7.40 „Express gospodarczy”
8.00 „Dzień dobry”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Domowe przedszkole”
9.35 „Przyjemne z pożytecznym”
9.55 „Dynastia” (64)
10.40 „Po sześćdziesiątce”
11.55 Aktualności telegazety
12.00 „Przybysze z Matplanety”
12.30 „W Europie nowożytnej”
13.00 „My, dorośli”
13.30 Spotkania z literaturą
14.05 Agroszkoła
14.35 Ekonomika dla rolnika
14.45 Chmia bez tajemnic
15.00 Język niemiecki (18)
15.30 Uniwersytet Nauczyc.
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości
16.10 „Video-Top”
16.20 „Jeden rok w szkole” (2)
16.50 „Sami o sobie”
17.15 Teleexpress
17.35 „Biznes”
18.00 „10 minut”
18.10 Klinika zdrowego człowieka
18.30 Sprawa dla reportera
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.10 „Dynastia” (64)
21.00 Studio Sport
21.30 „Racje”
22.00 Program rozrywkowy
22.35 Wiadomości wieczorne
23.00 Język angielski (10)

### PROGRAM II

8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa”
9.10 Film
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
11.00 Film fab.
12.15 Film dok.
13.15 Publicystyka
13.40 „Express gospodarczy”
14.00 CNN — Headline News
14.15 Program dnia
14.20 Przegląd prasy
14.30 Publicystyka
15.00 „Ulica Sezamkowa”
16.00 „Kontakt TV”
17.00 „Przychodnia wszelkich dolegliwości” (6)
18.30 „M.A.S.H.” — serial USA
19.00 „Obserwator”
19.30 J. francuski
20.00 „Siódemka” w „2”
21.00 „Ze wszystkich stron”
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „W labiryncie”
22.2[illegible] „Telewizja nocą”
23.10 Komentarz dnia
23.15 CNN — Headline News

## CZWARTEK

**10 I 1991 r.**

### PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „100 lat” — mag. ubezp. społ.
9.20 „Domowe przedszkole”
9.45 „Gliniarz i prokurator”
10.35 „To się może przydać”
11.55 Aktualności telegazety
12.00 „Kameleon”
12.30 Kronika wydarzeń — Monachium 1938
13.00 Fizyka
13.30 Spotkania z literaturą
14.05 Agroszkoła
14.35 „Ziemia — nasza planeta”
15.05 „Kim być?”
15.30 „Bogowie, ludzie, zwierzęta” — film dok.
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości
16.20 „Kwant” oraz film z s. „O naturze rzeczy”
17.15 Teleexpress
17.35 „Spojrzenia”
18.00 „10 minut”
18.10 „Tam, gdzie żyją tygrysy” (4)
18.45 Magazyn Katolicki
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.10 „Gliniarz i prokurator”
21.00 „Pegaz”
21.30 „Interpelacje”
22.35 Wiadomości
22.55 „Jazz Jamboree '90”
23.35 Język angielski (40)

### PROGRAM II

8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa”
9.10 Film
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
11.00 Reportaż
11.15 Film fab.
12.45 Program dnia
12.50 Przegląd prasy
13.00 Wrocław na antenie „2”
14.00 CNN — Headline News
14.15 Publicystyka
15.00 „Ulica Sezamkowa”
16.00 Program public.
17.00 Spotkanie z Anatolijem Kaszpirowskim
18.00 Programy lokalne
18.30 „Cudowne lata”
19.00 „Obserwator”
19.30 Język niemiecki (10)
20.00 Studio Sport
21.00 „Express reporterów”
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 Film fab.
23.00 Rozmowy z Czesławem Miłoszem
23.30 Komentarz dnia
23.35 CNN — Headline News

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

Навагодні баль БГКТ у Варшаве адбудзецца ў ноч з 12 на 13 студзеня (просім прабачэння за памылку ў папярэднім нумары). Дакладныя інфармацыі: Варшава, вул. Старасцінская 16 (клуб БГКТ), тэл. 483-061.




**„Уліса“ не пакідае надзея ● Варшаўскія вечарыны ● Што пасля СССР? ● Рокер знайшоў паэтэсу ● Міласэрная місія а. Надсона ● Ляснік з душой мастака ● Археолагі на грунвальдскім полі ● Крыжаванка.**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

